• выдаецца са жніўня 1917 г.

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

• кошт 4000 рублёў

15 снежня 1998 г. аўторак, №№ 242 —243 (23593 — 23594)



# ЗВЯЗДА

## У МІНЧАН ЁСЦЬ ШАНЦ СУСТРЭЦЬ НОВЫ ГОД З ШАМПАНСКІМ

У дваццатых чыслах снежня ў магазінах беларускай сталіцы павінен пачацца гандаль айчыннымі шампанскімі вінамі. Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў галоўным упраўленні спажывецкага рынку Мінскага гарвыканкама, у гандлёвую сетку горада паступіць каля аднаго мільёна бутэлек гэтага пеністага напітку. Паставяць шампанскае на навагоднія сталы мінчан Мінскі, Смалявіцкі і Гомельскі заводы. Прадугледжваецца, што цана на айчыннае шампанскае будзе ў межах 300 тысяч рублёў.

**Аксана АСПІШЧАВА, БЕЛТА.**

## МІХАІЛ МЯСНІКОВІЧ ПРАІНФАРМАВАЎ АЛЯКСАНДРА ЛУКАШЭНКУ АБ РАБОЦЕ РЭСПУБЛІКАНСКАГА ШТАБА ПРЫ ПРЭЗІДЭНЦЕ РЭСПУБЛІКІ

**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка 14 снежня прыняў са справаздачай кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Міхаіла Мясніковіча.**

Як паведамілі БЕЛТА ў прэсслужбе прэзідэнта, Міхаіл Мясніковіч, які з'яўляецца кіраўніком Рэспубліканскага штаба пры прэзідэнце, далажыў аб рабоце, праведзенай штабам, аб мерах па насычэнню спажывецкага рынку таварамі. Па выніках даклада кіраўнік дзяржавы даў адпаведныя даручэнні Савету Міністраў, аблвыканкамам і Камітэту дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь.

М. У. Мясніковіч праінфармаваў прэзідэнта таксама аб ходзе падрыхтоўкі рабочай паездкі кіраўніка беларускай дзяржавы ў Расійскую Федэрацыю і сустрэчы з прэзідэнтам гэтай краіны Б. М. Ельцыным.

У ходзе даклада кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта закрануліся таксама некаторыя кадравыя пытанні.

**БЕЛТА.**

## КАЛГАСЫ І САЎГАСЫ БРЭСЦКАЙ ВОБЛАСЦІ ЗАПАЗЫЧЫЛІ СВАІМ РАБОТНІКАМ КАЛЯ 200 МІЛЬЯРДАЎ РУБЛЁЎ

**Каля 200 мільярдаў рублёў, ці 90,9 працэнта ад агульнай запазычанасці вобласці па зарплаце, завінаваціліся калгасы і саўгасы Брэсцкай вобласці сваім работнікам.**

У многіх гаспадарках зарплата не выплачваецца са жніўня-верасня. Найгорш ідуць справы з выплатамі ў Баранавіцкім, Кобрынскім, Івацэвіцкім, Лунінецкім, Пружанскім і Пінскім раёнах.

Акрамя таго, сярэдняя зарплата ў жыхароў вёскі склала менш за 2 мільёны рублёў. Гэта значна ніжэй не толькі за сярэднюю зарплату ў вобласці (5 мільёнаў 159 тысяч рублёў), але і за пражытачны мінімум.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ, БелаПАН.**

*КРЫМІНАЛ*

## РАЗБОЙНІКАМ НЕ ЎДАЛОСЯ ПАЗБЕГНУЦЬ ПАКАРАННЯ

Пракуратурай Заводскага раёна Мінска завершана следства і крымінальная справа накіравана ў суд у дачыненні да злачыннай групы з трох жыхароў сталіцы.

Злачынцы абвінавачваюцца ў тым, што, дзейнічаючы па раней распрацаванаму плану, на працягу гэтага года ў Мінску ўчынялі разбойныя напады, у ходзе якіх было забіта трое жыхароў горада. Акрамя таго, ім інкрымінуецца групавое згвалтаванне.

Абвінаваўчым прыгаворам Мінскага гарадскога суда да пазбаўлення волі на тэрмін ад 4 да 13 гадоў асуджаны таксама трое жыхароў Мінска. Суд прызнаў іх вінаватымі ў тым, што па папярэдняй змове з дапамогай насілля яны выкралі пасведчанне работніка міліцыі, якое потым выкарыстоўвалі ў злачынных мэтах. Прад'яўляючы пасведчанне супрацоўніка міліцыі, злачынцы завалодалі аўтамашынай «Джып-Каранда», а таксама маёмасцю на 15 млн. рублёў, якая знаходзілася ў машыне. Потым разбойнікі ўчынілі ў Мінску і Баранавічах крадзеж аўтамашыны «Фальксваген», а таксама асабістай маёмасці грамадзян на дзесяткі мільёнаў рублёў.

**Аляксей ТАРАНАЎ, прэс-цэнтр Пракуратуры Беларусі.**

**Яўген ПЯСЕЦКІ**

## ФОТАСЛОВА

***— Белыя птахі зімы,***
***дзе вашы ціхія гнёзды?***
***— Там, дзе ў бяздонных нябёсах***
***стогны і енк не чутны...***
***— Белыя птахі зімы,***
***хто вас у далеч прымусіў?***
***— Досыць было Беларусі***
***чорнай асенняй слаты...***
***— Любыя птахі зімы,***
***хіба ж надоўга вы з намі?***
***— Хай стрэнем скон з ручаямі,***
***толькі б святлець на зямлі...***

*ПАСЛЯ ВЫСТУПЛЕННЯ «ЗВЯЗДЫ»*

## Справа па ашуканству адноўлена. Пракуратура рэспублікі ўзяла яе пад свой кантроль

Усё кладуцца і кладуцца на стол лісты. У іх крык душы пацярпелых ад дзейнасці на нашай зямлі іншаземных прадпрыемстваў "Пакупкі на дом" і «Бума ЛЛЦ». Людзі аддавалі часам апошняе, каб атрымаць ад гэтых фірмаў абяцаныя прызы, але аказаліся ашуканымі. Не буду ўдавацца ў падрабязнасці — шмат намі напісана аб гэтай справе. Зазначу толькі, што ў барацьбе «разумных» і «не вельмі» апошнія цэрпяць паражэнне. Тысячы нашых пенсіянераў, студэнтаў і іншых маламаёмных грамадзян у роспачы ад таго, што крымінальныя справы па гэтых фірмах аказаліся спыненымі.

«Звязда» настойліва працягвае адстойваць інтарэсы сваіх чытачоў. Наш зварот да Генеральнага пракурора рэспублікі даў плён. Днямі мы атрымалі пісьмо наступнага зместу:

«Паведамляю, што Ваш зварот да Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь А. А. Бажэлкі з нагоды крымінальнай справы аб вялікай рэкламнай гульні, праводзімай фірмамі «Пакупкі на дом» і «Бума ЛЛЦ», разгледжаны. Пастанова аб спыненні крымінальнай справы адменена. Следства па справе адноўлена. Крымінальная справа для правядзення дадатковага расследавання накіравана ў следчы аддзел Савецкага РАУС. Расследаванне справы ўзята на кантроль Пракуратурай рэспублікі».

З'явілася надзея, што наша Феміда здолее даць ашуканству адпаведную юрыдычную ацэнку, а «разумным» — кіраўніцтву фірмы і тым, хто не рэгістраваў, выдаваў ліцэнзіі, давядзецца адказваць перад законам.

**Віктар ХУРСІК.**

### Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 609
### Аб прысваенні У. Р. Латыпаву дыпламатычнага рангу Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла

Прысвоіць міністру замежных спраў Рэспублікі Беларусь Латыпаву Уралу Рамдракавічу дыпламатычны ранг Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*14 снежня 1998 г., г. Мінск.*

## ВЫБАРЫ Ў МЯСЦОВЫЯ САВЕТЫ — У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ КІРАЎНІКА ДЗЯРЖАВЫ

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка 14 снежня прыняў старшыню Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў Лідзію Ярмошыну.

Лідзія Ярмошына праінфармавала кіраўніка дзяржавы аб выніках абмеркавання на мінулым тыдні ў Палаце прадстаўнікоў праекта Закона аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў у другім чытанні і магчымасцях яго прыняцця ў цэлым на пасяджэнні 15 снежня 1998 года.

Была адзначана неабходнасць хутчэйшага прыняцця законапраекта ў сувязі з выбарамі ў мясцовыя Саветы, якія плануюцца на канец сакавіка. Прэзідэнт згадзіўся пайсці на прапанову дэпутатаў па зніжэнню парога яўкі выбаршчыкаў у другім туры галасавання з 50 да 25 працэнтаў.

Падкрэслівалася, што гэта мера будзе датычыць толькі мясцовых выбараў і ні ў якім разе не адносіцца да законапраектаў, якія будуць рэгуляваць выбары прэзідэнта, а таксама парламента, дзе ў абодвух турах галасавання для прызнання таго, што выбары адбыліся, па-ранейшаму неабходны ўдзел больш чым палавіны выбаршчыкаў.

Прэзідэнт выказаў нездавальненне вынікамі галасавання па 33-му артыкулу законапраекта. У ім у варыянце, што прапануе парламент, агаворана абмежаванне на ўдзел у выбарах толькі для асоб, раней судзімых, судзімасць якіх не знята і не пагашана ва ўстаноўленым законам парадку. Кіраўнік дзяржавы прапануе пашырыць гэта абмежаванне на ўдзел у выбарах і на асоб, якія прыцягваліся да адміністрацыйнай адказнасці па суду. Ён мае намер настойваць на гэтай пазіцыі. У выпадку, калі яна не будзе падтрымана парламентам, прэзідэнт увядзе гэта абмежаванне сваім дэкрэтам.

У час сустрэчы абмяркоўваліся таксама арганізацыйна-фінансавыя пытанні забеспячэння выбарчай кампаніі.

**БЕЛТА.**



## БЕЛАРУСЬ РАЗВІВАЕ ЭКАНАМІЧНАЕ І КУЛЬТУРНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА З ЮГАСЛАВІЯЙ

**Перспектывы эканамічнага і культурнага супрацоўніцтва з Саюзнай Рэспублікай Югаславіяй былі абмеркаваны 14 снежня ў час сустрэчы прэм'ер-міністра Беларусі Сяргея Лінга з членамі афіцыйнай дэлегацыі гэтай краіны пад кіраўніцтвам намесніка кіраўніка ўрада Даніла Вуксанавіча.**

Сяргей Лінг адзначыў, што развіццё культурных сувязяў умацоўвае і эканамічнае супрацоўніцтва паміж дзвюма краінамі. У абодвух напрамках, падкрэсліў ён, намеціўся яўны прагрэс. Аднак, лічыць прэм'ер-міністр, на гэтым спыняцца не трэба. Неабходна зрабіць так, каб дружба паміж нашымі народамі расла і ўмацоўвалася.

У слове ў адказ Даніла Вуксанавіч падзякаваў за сардэчны прыём, аказаны на беларускай зямлі. Ён падкрэсліў, што Беларусь — першая краіна, дзе Югаславія пасля доўгага перапынку праводзіць маштабную культурную акцыю.

**Ігар ХОМІЧ, БЕЛТА.**

*УСМІХНЁМСЯ!*




Малюнак Яўгена ЦАРКОВА.

*У кабінеце псіхіятра ўрач пытае:*
*— На што скардзіцеся?*
*— Мне пастаянна здаецца, што за мной нехта сочыць.*
*— І даўно гэта з вамі?*
*— З таго моманту, як я ўцёк з турмы.*

*— Магу параіць вам цудоўнага адваката. Яго кліенту пагражала пакаранне на электрычным крэсле, і, уяўляеце, ён дабіўся...*
*— Апраўдання?*
*— Не, значнага паніжэння напружання.*



### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 14 СНЕЖНЯ 1998 г. (па стану на 10.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (017) | | | | | | | |
| Белбізнесбанк (гал. апер. упр.) | 210000 | 230000 | 130000 | 139000 | 10500 | 11400 | 276-95-31 |
| «Славнефтебанк» | 219000 | 230000 | 132000 | 139000 | 10900 | 11400 | 216-23-91 |
| Афіцыйны курс Нацыянальнага банка РБ<br>Курс, устаноўлены НБ РБ | 98000,00<br>220000,00 | | 59444,38<br>133446,56 | | 4880,00<br>10945,27 | | Курс на 15.12.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі (Масква) | 20,1000 | | 12,1737 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваццa ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

# ПАКУЛЬ НЯВЫРАШАНЫЯ «ПАЎТАРЫ ПРАБЛЕМЫ»

## *БЕЛАРУСЬ І УКРАІНА ПАДПІСАЛІ ДАГАВОР АБ ЭКАНАМІЧНЫМ СУПРАЦОЎНІЦТВЕ НА ДЗЕСЯЦЬ ГАДОЎ*

**11—12 снежня прэзідэнт Украіны Леанід Кучма наведаў з рабочым візітам Беларусь. У першы дзень візіту пасля двухбаковых перагавораў у пашыраным саставе прэзідэнты Беларусі і Украіны падпісалі беларуска-украінскі Дагавор аб эканамічным супрацоўніцтве на 1999—2008 гады, а віцэпрэм'еры Украіны Сяргей Тыгіпка і Беларусі Валерый Кокараў — Міжурадавае пагадненне аб прынцыпах спагнання ўскосных падаткаў пры экспарце, імпарце тавараў (работ, паслуг).**

Абодва прэзідэнты высока ацанілі работу сумеснай міждзяржаўнай камісіі, кіраўнікі якой Валерый Кокараў і Сяргей Тыгіпка рабілі справаздачу на перагаворах прэзідэнтаў у пашыраным саставе.

— Гэта добры прыклад для работы ўсіх іншых аналагічных камісій, якія ёсць ва Украіны. І ўсе даручэнні, што даваліся прэзідэнтамі, і сумесная міжурадавая праграма практычна выкананы на 99,9 працэнта,— падкрэсліў Леанід Кучма.

Аляксандр Лукашэнка канкрэтызаваў словы свайго калегі: «З 24 праблем, якія мы вызначылі у выніку кантактаў з Леанідам Кучмам за апошнія два-тры гады, засталіся не да канца рэалізаванымі ўсяго паўтары праблемы... Мы выйшлі на рашэнне самага галоўнага пытання, якое было перашкодай у нашым гандлі, — аб спагнанні ўскосных падаткаў па краіне прызначэння. Гэта самая цывілізаваная норма ў гандлі паміж дзяржавамі свету, прынятая і ў Сусветнай гандлёвай арганізацыі. Гэта выгадна і Украіне, і Беларусі».

— Пасля падпісання гэтых дакументаў няма перашкод для росту тавараабароту ў нашых адносінах,— такую выснову зрабіў А. Лукашэнка. І Л. Кучма яго падтрымаў.

Адначасова абодва прэзідэнты выказалі сваю занепакоенасць рэзкім падзеннем узаемнага тавараабароту сёлета. За студзень—кастрычнік тавараабарот паміж дзвюма нашымі дзяржавамі ўпаў на 18,2 працэнта у параўнанні з аналагічным перыядам 1997 года — з 1175,3 мільёна долараў ЗША да 962,1 мільёна долараў... Новыя міждзяржаўныя дакументы дазваляюць спадзявацца, што гэтая негатыўная тэндэнцыя будзе пераадолена.

Як патлумачыў беларускі прэзідэнт, падпісаны кіраўнікамі дзяржаў дзесяцігадовы дагавор зацвярджае распрацаваную двума ўрадамі Міждзяржаўную праграму доўгатэрміновага гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва Беларусі і Украіны. Міждзяржаўная праграма мае мэту «ажыццяўленне ўзгодненага комплексу захадаў па аказанню дзяржаўнага садзейнічання ўзаемнаму эканамічнаму супрацоўніцтву шляхам збліжэння нарматыўна-прававой базы і рэалізацыі сумесных праектаў», як сцвяржаецца ў распаўсюджаным у час перагавораў прэс-рэлізе беларускага МЗС. У Міждзяржаўнай праграме размова ідзе ўжо аб канкрэтных групах тавараў, тэндэнцыях гандлёва-эканамічных адносінаў і інш.

Аляксандр Лукашэнка заклікаў свайго ўкраінскага калегу забяспечыць, каб пастаўкі ў Беларусь тавараў крытычнага імпарту (цукар, алей, цвёрдыя сарты пшаніцы, а таксама чорныя металы) ішлі напрамую, «мінаючы пасрэднікаў на Захадзе або на Усходзе». Як было заяўлена, урады возьмуць пад кантроль гэтыя асноўныя таварапатокі. Першае падобнае пагадненне аб пастаўцы 10 тысяч тон высакаякаснай украінскай мукі ў абмен на беларускія тавары было падпісана у той жа дзень у Кіеве. Аб гэтым журналістам паведаміў Леанід Кучма.

— Сённяшнія перагаворы пацвердзілі, што ў нас няма практычна ніякіх разыходжанняў, і галоўнае наша заданне — расшырыць супрацоўніцтва, перш за ўсё —у эканамічнай галіне,— заявіў Л. Кучма пасля падпісання Дагавора.

Тым не меней, украінскі прэзідэнт прызнаў, што ёсць адно пытанне, так да канца і не ўрэгуляванае паміж дзвюма краінамі. Гэта праблема ўкраінскай запазычанасці перад Беларуссю. Запазычанасць гэтая ацэньваецца экспертамі ў 170—200 мільёнаў долараў ЗША. Але такая запазычанасць заўсёды лічылася спрэчнай. Аднак нарэшце цяпер гэтае пытанне прэзідэнты дамовіліся канкрэтна разгледзець у сакавіку 1999 года, што само па сабе ўжо пэўны прагрэс. Запазычанасць Украіны Беларусі ўтварылася ў першыя постсавецкія гады, калі беларускія тавары па-ранейшаму ішлі ва Украіну, але за іх ніхто так і не заплаціў да гэтага часу. Беларускі прэзідэнт падкрэсліў, што ён быў бы не супраць, каб часткова гэтая запазычанасць была пагашаная дэфіцытнымі цяпер у Беларусі харчовымі таварамі, якія ёсць ва Украіне — тыя ж цукар, алей і мука. Гэта і ёсць тыя пакуль нявырашаныя «паўтары праблемы» ў беларуска-украінскіх адносінах, пра якія гаварыў беларускі прэзідэнт.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## *УДЗЕЛЬНІКАМ МІЖНАРОДНАЙ НАВУКОВАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ «ВАВІЛАЎСКІЯ ЧЫТАННІ»*

*Паважаныя таварышы, сябры!*

*Шчыра вітаю вас, вядомых вучоных, якія сабраліся на беларускай зямлі на свае традыцыйныя «Вавілаўскія чытанні».*

*Удзел у іх прадстаўнічых дэлегацый Беларусі, Расіі і Украіны пераканаўча сведчыць аб тым, што навука моцная інтэграцыйнымі сувязямі. Свабодны, зацікаўлены абмен свежымі ідэямі і новымі напрацоўкамі ў галіне генетыкі і селекцыі дасць магчымасць вам актыўна развіваць гэты вельмі важны напрамак навукі, які несумненна стане прыярытэтным у наступным XXI стагоддзі.*

*Упэўнены, што правядзенне «Вавілаўскіх чытанняў» у гонар выдатнага вучонага ў старажытным і вечна маладым Гомелі, размешчаным недалёка ад граніц трох нашых дзяржаў, будзе садзейнічаць умацаванню славянскага яднання, якое бярэ пачатак са старажытнай глыбіні стагоддзяў.*

*Жадаю ўдзельнікам міжнароднай навуковай канферэнцыі плённых поспехаў, здароўя і дабрабыту.*

***Аляксандр ЛУКАШЭНКА.***

*15 снежня 1998 года.*

**РАШЭННЕ РЭСПУБЛІКАНСКАГА ШТАБА ПРЫ ПРЭЗІДЭНЦЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 14**

## АБ РАБОЦЕ КАНДЫТАРСКІХ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ І ЦЭХАЎ ПА НАСЫЧЭННЮ СПАЖЫВЕЦКАГА РЫНКУ ПРАДУКЦЫЯЙ, ШТО ВЫРАБЛЯЕЦЦА ІМІ

1. Прыняць да ведама інфармацыю Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь аб прымаемых мерах па стабілізацыі работы адкрытых акцыянерных таварыстваў «Камунарка» і «Спартак» па вытворчасці і пастаўцы на спажывецкі рынак кандытарскіх вырабаў.

2. Адзначыць, што з боку Мінсельгасхарча і яго канцэрна «Белдзяржхарчпрам» у 1998 годзе не было прынята дастаткова эфектыўных мераў па сыравіннаму забеспячэнню і больш поўнаму выкарыстанню вытворчых магутнасцяў прадпрыемстваў кандытарскай прамысловасці, што прывяло да перабояў у гандлі асобнымі відамі кандытарскіх вырабаў.

Мінсельгасхарчу, Мінгандлю, Белкаапсаюзу, аблвыканкамам і Мінскаму гарвыканкаму забяспечыць максімальную загрузку вытворчых магутнасцяў кандытарскіх фабрык, цэхаў і павелічэнню пастаўкі прадукцыі, што выпрабляецца імі, на ўнутраны рынак рэспублікі, звярнуўшы асаблівую ўвагу на задавальненне попыту насельніцтва на яе ў навагоднія і калядныя святы.

3. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь ўзмацніць кантроль за работай прадпрыемстваў кандытарскай прамысловасці па насычэнню спажывецкага рынку прадукцыяй, што выпрабляецца імі, аказаўшы ім неабходную дапамогу ў закупцы сыравіны па імпарту.

**Кіраўнік Рэспубліканскага штаба пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь М.У.МЯСНІКОВІЧ.**

*11 снежня 1998 г. г. Мінск.*

**РАШЭННЕ РЭСПУБЛІКАНСКАГА ШТАБА ПРЫ ПРЭЗІДЭНЦЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 15**

## АБ РАБОЦЕ МІНІСТЭРСТВА АХОВЫ ЗДАРОЎЯ ПА АРГАНІЗАЦЫІ АНАЛІЗУ ХАРЧОВЫХ ПРАДУКТАЎ, НАКІРАВАНЫХ У ДАХОД ДЗЯРЖАВЫ

1. Адзначыць нездавальняючую работу дзяржаўнай санітарна-эпідэміялагічнай службы па арганізацыі аналізу харчовых прадуктаў, накіраваных у даход дзяржавы, а таксама нізкі кантроль за гэтай работай намесніка міністра аховы здароўя — галоўнага дзяржаўнага санітарнага ўрача Рэспублікі Беларусь В.П.Філонава.

2. Намеснік міністра аховы здароўя — галоўны дзяржаўны санітарны ўрач Рэспублікі Беларусь В.П.Філонаў заслугоўвае вызвалення ад займаемай пасады, аднак з улікам яго запэўнівання аб тым, што ім асабіста будуць прыняты меры па навядзенню парадку ў справе арганізацыі аналізу харчовых і іншых прадуктаў, накіраваных у даход дзяржавы, пытанне аб адпаведнасці В.П.Філонава займаемай пасадзе разгледзець у студзені 1999 г.

3. Рэспубліканскай каардынацыйнай камісіі па пытаннях работы з накіраванай у даход дзяржавы маёмасцю з прыцягненнем зацікаўленых арганізаваць у снежні 1998 г. праверку сістэмы работы аналагічных камісій на месцах.

**Кіраўнік Рэспубліканскага штаба пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь М. У. МЯСНІКОВІЧ.**

*11 снежня 1998 г. г. Мінск.*

# САЮЗНЫ БЮДЖЭТ, ЯК І НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ, ПАКУЛЬ НЕ ГАТОВЫ

**У мінулы панядзелак у Мінску мелася адбыцца дзесятая нечарговая сесія Парламенцкага Сходу Саюза Беларусі і Расіі. Праграму яе правядзення ў пачатку мінулага тыдня абнародавалі сродкі масавай інфармацыі, але праз некалькі дзён сустрэчы беларускіх і расійскіх дэпутатаў быў дадзены адбой. Гэта здарылася адразу пасля пасяджэння ў Мінску Выканаўчага Камітэта Саюза. Такім чынам, прычына адмены сесіі, відавочна, у рашэнні Выканкама.**

Зразумела, справа не ў сесіі, а ў галоўным пытанні, якое павінны былі абмяркоўваць парламентарыі, — у праекце бюджэту Саюза дзвюх дзяржаў на наступны год. Гэтае пытанне значылася першым і ў парадку дня пасяджэння Выканаўчага Камітэта. Ужо падчас яго правядзення прасачылася інфармацыя, што расійскі бок настойліва прапануе адкласці прыняцце бюджэту на больш позні час. Першы віцэпрэм'ер расійскага ўрада Вадзім Густаў пасля заканчэння работы Выканкама заўважыў, што прыняцце ці непрыняцце бюджэту на ім наогул не прадугледжвалася. Намеснік старшыні Выканаўчага Камітэта растлумачыў, што праект будзе абмяркоўвацца па сутнасці толькі пасля таго, як нацыянальныя парламенты Беларусі і Расіі зацвердзяць дзяржаўныя бюджэты сваіх краін.

Але, хутчэй за ўсё, В. Густаў у першую чаргу меў на ўвазе Расію, дзе праект бюджэту будзе разглядацца ўжо ў другой палове снежня. Што ж да Беларусі, то, як вядома, галоўны фінансавы план нашай дзяржавы на 1999 год да гэтага часу яшчэ не з'явіўся ў айчынным парламенце. Да таго ж беларускі бок быў згодны спачатку зацвердзіць лічбы саюзнага бюджэту, а потым замацаваць выдаткі на іх пакрыццё ў нацыянальным.

Недвухсэнсоўную пазіцыю Расіі пацвердзіў і кіраўнік Савета Рэспублікі Павел Шыпук, які на адной з апошніх прэс-канферэнцый выказаў сваё бачанне прычын адмены сесіі Парламенцкага Сходу СБР. Паводле яго інфармацыі, у апошні час узніклі рознагалоссі па сумах сродкаў, якія будуць выдзяляць Расія і Беларусь у наступным годзе на фінансаванне сумесных праграм. «Пакуль гэтае пытанне не ўрэгулявана», — сказаў П. Шыпук.

У сувязі з гэтым карысна ўспомніць, як летась прымаўся першы бюджэт Саюза. Яго праект быў у пачатку снежня 1997-га адобраны Выканкамам, а 15 снежня дэпутаты, сабраўшыся на нечарговую сесію ў Маскву, канчаткова зацвердзілі яго. Тады аб'ём сродкаў быў вызначаны ў памеры 585 млн. 334 тысячы дэнамінаваных расійскіх рублёў. Беларусь павінна была ўнесці 35 працэнтаў гэтай сумы, а Расія — 65 працэнтаў. Такі дысбаланс тлумачыўся тым, што ад рэалізацыі сумесных праграм расійскі бок атрымліваў большы ў параўнанні з нашай краінай эфект.

Але на апошняй сесіі Парламенцкага Сходу СБР у Яраслаўлі, дзе разглядалася пытанне выканання бюджэту, прычын для аптымізму было мала. Наадварот, былі сур'ёзныя падставы для роздуму пра будучыню фінансавай падтрымкі інтэграцыі. Па вялікаму рахунку першы блін выйшаў камяком: грашовае забеспячэнне беларуска-расійскіх праграм на справе было ў значнай меры правалена. Той жа Вадзім Густаў у справаздачы 2 лістапада паведаміў, што з 23 праграм на 100 працэнтаў было прафінансавана толькі правядзенне фестывалю «Славянскі базар у Віцебску», ды і то беларускім бокам. Зноў жа Беларусь цалкам прафінансавала праграму па падрыхтоўцы праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця Саюза (на жаль, эканамічны крызіс зрабіў так, што ўкладанне грошай у справу прагназіравання аказалася дарэмным і проста стратным. — **Аўт.**). Астатнія праекты забяспечваліся грашыма толькі часткова, а некаторыя наогул не фінансаваліся. У выніку, паводле інфармацыі, якая была агучана ў Яраслаўлі, наша краіна ўнесла ў саюзны бюджэт на той час 50,1 працэнта ад узятай на сябе сумы, а Расія — толькі 20 працэнтаў. А між тым, чакалася выдзяленне сродкаў на такія важныя праграмы, як развіццё дызельнага аўтамабілебудавання, правядзенне фундаментальных даследаванняў і рэалізацыя сумесных праектаў у галіне навукі, пераадоленне наступстваў ад аварыі на ЧАЭС. Дарэчы, 42 працэнты ўсяе сумы бюджэту планавалася накіроўваць на праваахоўную дзейнасць і ўмацаванне бяспекі Саюза.

Калі верыць сцвярджэнням В. Густава і першага віцэ-прэм'ера Беларусі Васіля Далгалёва, то памер бюджэту на наступны год будзе не меншым за мінулы. Але самі лічбы пакуль застаюцца загадкай, як невядома і тое, ці будуць яны індэксавацца з разліку інфляцыі і дэвальвацыі расійскага рубля. Верагодна, бакі больш цвяроза і разважліва вырашылі на гэты раз падысці да такой складанай справы як фарміраванне бюджэту. Вопыт першага года прымушае задумацца не толькі над лічбамі, але і над механізмам выканання рашэнняў, каб яны не заставаліся толькі на паперы.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

# АФІЦЫЙНА

**РАШЭННЕ РЭСПУБЛІКАНСКАГА ШТАБА ПРЫ ПРЭЗІДЭНЦЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 17**

## АБ ПРЫМАЕМЫХ УРАДАМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ МЕРАХ ПА ЗАБЕСПЯЧЭННЮ НАСЕЛЬНІЦТВА ЛЯКАРСТВАМІ

1. Адзначыць, што Урадам Рэспублікі Беларусь прыняты шэраг мераў па насычэнню рынку лякарствамі. Аб'ём іх паставак ў лістападзе павялічыўся ў параўнанні з кастрычнікам на 20 працэнтаў, пры гэтым на 34 працэнты павялічыліся пастаўкі лякарстваў айчыннай вытворчасці.

У той жа час сітуацыя з забеспячэннем лякарствамі аптэк і бальніц застаецца напружанай. Аптэкі забяспечаны жыццёва неабходнымі лякарствамі толькі на 75—82 працэнты.

Нацыянальны банк не забяспечыў продаж прадпрыемствам сістэмы «Фармацыя» ўстаноўленага аб'ёму валюты для пагашэння запазычанасці замежным фірмам. Не прынялі меры па пагашэнню запазычанасці за лякарствы Віцебскі, Гомельскі, Гродзенскі аблвыканкамы.

Нязначныя аб'ёмы лякарстваў, што выпрабляюцца на прадпрыемствах канцэрна «Белбіяфарм». Не адпрацавана сістэма закупак сыравіны. Няма належнай каардынацыі ў рабоце Міністэрства аховы здароўя і названага канцэрна.

Няма ўзаемадзеяння ў рабоце рэспубліканскага вытворчага прадпрыемства «Фармацыя» і яе абласных прадпрыемстваў. Міністэрства аховы здароўя не забяспечыла належнае кіраўніцтва пытаннямі закупак і размеркавання медыкаментаў і кантролю за сітуацыяй на месцах.

2. Указаць міністру аховы здароўя І. Б. Зелянкевічу на нізкую патрабавальнасць да кадраў і сур'ёзныя хібы ў забеспячэнні насельніцтва Рэспублікі Беларусь медыкаментамі.

3. Прызнаць работу намесніка міністра аховы здароўя А. С. Курчанкова па арганізацыі забеспячэння насельніцтва і лячэбных устаноў лякарствамі нездавальняючай.

Разгледзець паўторна пытанне забеспячэння насельніцтва і лячэбных устаноў лякарствамі на пасяджэнні Рэспубліканскага штаба пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь у студзені 1999 г. з улікам запэўніванняў І. Б. Зелянкевіча і А. С. Курчанкова аб тым, што будуць прыняты неабходныя меры.

4. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

4.1. у 3-месячны тэрмін распрацаваць і зацвердзіць дзяржаўную праграму развіцця фармацэўтычнай прамысловасці Рэспублікі Беларусь на 1999—2005 гады, прадугледзеўшы ў ёй павелічэнне асартыменту выпускаемай прадукцыі да 450—500 назваў і забеспячэнне лякарствамі айчыннага рынку;

4.2. у мэтах поўнага забеспячэння вытворчых магутнасцяў фармацэўтычных прадпрыемстваў канцэрна «Белбіяфарм» увесці з 1 студзеня 1999 г. рэгуляванне вывазу айчыннай эндакрынна-ферментнай і раслiннай лекавай сыравіны;

4.3. у месячны тэрмін упарадкаваць адпускныя цэны на лякарствы айчынных вытворцаў, прадугледзеўшы фарміраванне цэн на лякарствы, што выпрабляюцца з імпартнай сыравіны і матэрыялаў і пастаўляюцца на ўнутраны рынак, зыходзячы з рэальных затрат на іх вытворчасць з улікам фактычна існуючага курса валюты і нарміруемага ўзроўню рэнтабельнасці (25 працэнтаў).

5. Нацыянальнаму банку забяспечыць канверсацыю сродкаў прадпрыемствам сістэмы «Фармацыя» ў раней устаноўленых аб'ёмах.

**Кіраўнік Рэспубліканскага штаба пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь М. У. МЯСНІКОВІЧ.**

*11 снежня 1998 г., г. Мінск.*

**Р А Ш Э Н Н Е РЭСПУБЛІКАНСКАГА ШТАБА ПРЫ ПРЭЗІДЭНЦЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 18**

## АБ УДАСКАНАЛЕННІ ЦЭНАВАЙ ПАЛІТЫКІ

1. Станоўча аднесціся да прапаноў Камітэта дзяржаўнага кантролю па ўдасканаленню цэнавай палітыкі.

2. Пагадзіцца з думкай Савета Міністраў аб неабходнасці разліку індэкса спажывецкіх цэн у двух вымярэннях: па метадалогіі Мінстата, а таксама па пераліку, прапанаванаму Мінэканомікі.

3. Савету Міністраў аднавіць работу Камісіі па каардынацыі дзейнасці дзяржаўных органаў па пытаннях цэнаўтварэння пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, створанай у адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 30 жніўня 1996 г. № 345 «Аб некаторых мерах па ўпарадкаванню цэнаўтварэння на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь».

4. Міністэрствам, іншым рэспубліканскім органам дзяржаўнага кіравання, аб'яднанням, падпарадкаваным Ураду, прадпрыемствам і арганізацыям удакладніць нарматывы матэрыяльных і працоўных затрат, прыняць меры па зніжэнню выдаткаў вытворчасці, набыццю сыравіны, матэрыялаў і камплектуючых пераважна без пасрэднікаў, нарошчванню вытворчасці канкурэнтаздольнай прадукцыі.

5. Нацыянальнаму банку і Савету Міністраў прыняць дадатковыя меры па стабілізацыі нацыянальнай валюты і паэтапнаму скарачэнню множнасці курсаў валют.

6. У сувязі з тым, што цэны на імпартныя тавары фарміруюцца суб'ектамі гаспадарання ў адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 3 чэрвеня 1998 г. № 882 «Аб мерах па насычэнню спажывецкага рынку рэспублікі таварамі», Мінэканомікі і Мінфіну распрацаваць і да 31 снежня 1998 г. увесці ў дзеянне механізм фарміравання цэн імпарцёрамі з улікам аптымізацыі велічыні прыбытку.

7. Прадпрыемствам, якія займаюць дамінуючае становішча на таварных рынках і ўключаны ў II раздзел Дзяржаўнага рэестра суб'ектаў гаспадарання, пры фарміраванні цэн на прадукцыю (тавары, паслугі) кіравацца абзацам трэцім пункта 1 пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 19 кастрычніка 1992 г. № 634 «Аб дадатковых мерах па дзяржаўнаму рэгуляванню цэн (тарыфаў) на прадукцыю (тавары, паслугі)».

8. Мінэканомікі да 1 лютага 1999 г. унесці змяненні і дапаўненні ў Палажэнне аб парадку фарміравання і прымянення цэн і тарыфаў, зацверджанае пастановай Мінэканомікі ад 27 снежня 1995 г. № 36, у мэтах удасканалення механізма фарміравання адпускных цэн на прадукцыю вытворча-тэхнічнага прызначэння, тавары народнага спажывання і тарыфаў на паслугі.

9. Мінэканомікі сумесна з Мінфінам і ДПК унесці прапановы ў Савет Міністраў аб увядзенні штрафных санкцый для суб'ектаў гаспадарання ўсіх формаў уласнасці за адсутнасць разлікаў, якія пацвярджаюць узровень цэн, што прымяняюцца.

10. Мінгандлю, Белкаапсаюзу, канцэрну «Белрэсурсы», іншым органам кіравання забяспечыць закупку па імпарту на конкурснай аснове за кошт дзяржаўных сродкаў тавараў народнага спажывання, якія не выпрабляюцца або недастаткова выпрабляюцца ў рэспубліцы.

**Кіраўнік Рэспубліканскага штаба пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь М. У. МЯСНІКОВІЧ.**

*11 снежня 1998 г., г. Мінск.*

# ДЭКРЭТ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 22

## Аб зацвярджэнні Палажэння аб афіцыйным апублікаванні і ўступленні ў сілу прававых актаў Рэспублікі Беларусь

У мэтах удасканалення афіцыйнага апублікавання і ўступлення ў сілу прававых актаў Рэспублікі Беларусь і ў адпаведнасці з часткай другой артыкула 79, часткай трэцяй артыкула 101 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь ***пастанаўляю:***

1. Зацвердзіць прыкладаемае Палажэнне аб афіцыйным апублікаванні і ўступленні ў сілу прававых актаў Рэспублікі Беларусь.

2. Устанавіць, што выданні, якія з'яўляюцца афіцыйнымі для адпаведных прававых актаў Рэспублікі Беларусь на дзень уступлення ў сілу гэтага Дэкрэта, захоўваюць гэты статус да 1 студзеня 2001 г., калі іншае не прадугледжана гэтым Дэкрэтам.

3. Унесці ва Указы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь наступныя змяненні:

3.1. пункт 8 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 3 снежня 1994 г. № 252 «Аб парадку апублікавання і ўступлення ў сілу дэкрэтаў, указаў і распараджэнняў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1994 г., № 13, арт.336; Збор дэкрэтаў, указаў Прэзідэнта і пастаноў Урада Рэспублікі Беларусь, 1997 г., № 3, арт.88) выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Збор дэкрэтаў, указаў Прэзідэнта і пастаноў Урада Рэспублікі Беларусь выдаецца тры разы ў месяц і складаецца з двух раздзелаў: у першым публікуюцца дэкрэты і ўказы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, у другім — пастановы Урада Рэспублікі Беларусь.

Прававыя акты да 1 студзеня 2001 г. афіцыйна публікуюцца ў Зборы дэкрэтаў, указаў Прэзідэнта і пастаноў Урада Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці з арыгіналамі, падпісанымі Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь або прэм'ер-міністрам Рэспублікі Беларусь»;

3.2. ва Указе Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 20 ліпеня 1998 г. № 369 «Аб Нацыянальным рэестры прававых актаў Рэспублікі Беларусь» (Збор дэкрэтаў, указаў Прэзідэнта і пастаноў Урада Рэспублікі Беларусь, 1998 г., № 20, арт.532):у пункце 5 словы: «Палажэннем аб Нацыянальным рэестры прававых актаў Рэспублікі Беларусь» замяніць словамі: «Палажэннем аб афіцыйным апублікаванні і ўступленні ў сілу прававых актаў Рэспублікі Беларусь»;

пункт 9 Палажэння аб Нацыянальным рэестры прававых актаў Рэспублікі Беларусь, зацверджанага гэтым Указам, выключыць.

4. Прызнаць страціўшымі сілу:

Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 15 жніўня 1994 г. № 49 «Аб некаторых пытаннях арганізацыі работы Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1994 г., № 2, арт.46);

пункты 1—6 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 3 снежня 1994 г. № 252 «Аб парадку апублікавання і ўступлення ў сілу дэкрэтаў, указаў і распараджэнняў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1994 г., № 13, арт. 336; Збор дэкрэтаў, указаў Прэзідэнта і пастаноў Урада Рэспублікі Беларусь, 1997г., № 3, арт.88);

Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 4 ліпеня 1996 г. № 242 «Аб апублікаванні міжнародных дагавораў Рэспублікі Беларусь» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1996 г., № 19, арт.468).

5. Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь:

да 1 студзеня 2000 г. унесці Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь прапановы аб удасканаленні выпуску выданняў прававой тэматыкі;

забяспечыць кантроль за захаваннем парадку апублікавання прававых актаў;

прыняць іншыя меры па выкананню гэтага Дэкрэта.

6. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь :

у двухмесячны тэрмін прыняць меры па прывядзенню рашэнняў Урада і падначаленых яму рэспубліканскіх органаў Дзяржаўнага кіравання ў адпаведнасць з гэтым Дэкрэтам;

забяспечыць за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту фінансаванне расходаў, звязаных з рэалізацыяй гэтага Дэкрэта.

7. Нацыянальнаму цэнтру законапраектнай дзейнасці пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь у двухмесячны тэрмін унесці ва ўстаноўленым парадку Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь прапановы аб прывядзенні рашэнняў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і законаў Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым Дэкрэтам.

8. Гэты Дэкрэт:

уступае ў сілу з 1 студзеня 1999 г., за выключэннем пунктаў 2, 5—8, якія ўступаюць у сілу з дня яго апублікавання;

з'яўляецца часовым і ў адпаведнасці з часткай трэцяй артыкула 101 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь прадстаўляецца на разгляд Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

10 снежня 1998 г., г.Мінск.

**ЗАЦВЕРДЖАНА.**
***Дэкрэт Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь 10.12. 1998 № 22***

# ПАЛАЖЭННЕ Аб афіцыйным апублікаванні і ўступленні ў сілу прававых актаў Рэспублікі Беларусь

**АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ**

1. Гэтым Палажэннем рэгламентуюцца пытанні афіцыйнага апублікавання і ўступлення ў сілу наступных прававых актаў Рэспублікі Беларусь (далей — прававыя акты), якія прымаюцца (выдаюцца) адпаведнымі дзяржаўнымі органамі і службовымі асобамі Рэспублікі Беларусь:

дэкрэтаў, указаў, распараджэнняў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь;

законаў Рэспублікі Беларусь;

міжнародных дагавораў Рэспублікі Беларусь, уключаючы дапаўненні, папраўкі, пратаколы, дадаткі да іх і іншыя дакументы, якія з'яўляюцца іх неад'емнай часткай (далей — міжнародныя дагаворы);

пастаноў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь;

пастаноў Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь;

пастаноў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь;

распараджэнняў прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь;

заключэнняў і іншых рашэнняў Канстытуцыйнага суда, за выключэннем запытаў, патрабаванняў і рашэнняў працэдурнага характару (далей — рашэнні Канстытуцыйнага суда);

пастаноў Пленума Вярхоўнага суда па пытаннях прымянення заканадаўства Рэспублікі Беларусь, якія ўзнікаюць пры разглядзе судовых спраў (далей — пастановы Пленума Вярхоўнага суда);

пастаноў Пленума Вышэйшага гаспадарчага суда па пытаннях прымянення гаспадарчага заканадаўства на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь (далей — пастановы Пленума Вышэйшага гаспадарчага суда);

нарматыўных прававых актаў Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і іншых дзяржаўных органаў, непасрэдна падведамных Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь (далей — прававыя акты дзяржаўных органаў, непасрэдна падведамных Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь); нарматыўных прававых актаў Нацыянальнага банка, міністэрстваў і іншых рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання (далей — прававыя акты рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання);

нарматыўных прававых актаў мясцовых Саветаў дэпутатаў, выканаўчых і распарадчых органаў (далей — прававыя акты мясцовых Саветаў дэпутатаў, выканаўчых і распарадчых органаў).

**АПУБЛІКАВАННЕ ПРАВАВЫХ АКТАЎ**

2. Дэкрэты Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і законы Рэспублікі Беларусь пасля падпісання Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, у тым ліку ў выпадках, калі ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь закон лічыцца падпісаным, падлягаюць неадкладнаму афіцыйнаму апублікаванню.

Указы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь нарматыўнага характару падлягаюць абавязковаму афіцыйнаму апублікаванню, калі іншае не прадугледжана гэтым Палажэннем.

Іншыя прававыя акты могуць быць афіцыйна апублікаваны пасля ўключэння іх у Нацыянальны рэестр прававых актаў Рэспублікі Беларусь.

3. Не падлягаюць апублікаванню прававыя акты або іх асобныя палажэнні, што змяшчаюць дзяржаўныя сакрэты або іншыя звесткі, якія ахоўваюцца заканадаўствам, калі іншае не прадугледжана заканадаўствам.

Рашэнне аб тым, што прававы акт або яго асобныя палажэнні не падлягаюць публікацыі, прымаецца ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку ўпаўнаважаным дзяржаўным органам (службовай асобай), аб чым на арыгінале дакумента робіцца адпаведная адзнака.

4. Афіцыйным апублікаваннем з'яўляецца давядзенне прававых актаў да ўсеагульнага ведама шляхам перадруку іх тэкстаў у поўнай адпаведнасці з падпісанымі арыгіналамі ў наступных афіцыйных выданнях:

выданні Нацыянальнага рэестра прававых актаў Рэспублікі Беларусь;

газеце «Советская Белоруссия» (дэкрэты, указы, распараджэнні Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, міжнародныя дагаворы, якія не падлягаюць ратыфікацыі і ўступілі ў сілу для Рэспублікі Беларусь, пастановы пленумаў Вярхоўнага суда і Вышэйшага гаспадарчага суда);

газеце «Звязда» (законы Рэспублікі Беларусь, пастановы Палаты прадстаўнікоў і Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, ратыфікаваныя міжнародныя дагаворы, рашэнні Канстытуцыйнага суда (на беларускай мове);

«Народнай газеце» (законы Рэспублікі Беларусь, пастановы Палаты прадстаўнікоў і Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, ратыфікаваныя міжнародныя дагаворы, рашэнні Канстытуцыйнага суда (на рускай мове);

газеце «Рэспубліка» (пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, распараджэнні прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь, прававыя акты рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання);

перыядычных друкаваных выданнях, якія вызначаюцца ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь мясцовымі Саветамі дэпутатаў, выканаўчымі і распарадчымі органамі (прававыя акты гэтых органаў).

5. Афіцыйнае апублікаванне прававога акта ажыццяўляецца, як правіла, на беларускай і рускай мовах у адпаведнасці з падпісаным арыгіналам.

Афіцыйнае апублікаванне прававога акта на іншых мовах дапускаецца толькі пры наяўнасці афіцыйнага перакладу на адпаведную мову, зацверджанага адпаведным дзяржаўным органам або службовай асобай у парадку, устаноўленым для прыняцця (выдання) гэтага акта.

6. Датай афіцыйнага апублікавання прававога акта лічыцца дата выхаду ў свет афіцыйнага выдання, у якім змешчаны гэты акт.

У выпадку разначасовага апублікавання прававога акта ў некалькіх афіцыйных выданнях дата афіцыйнага апублікавання прававога акта вызначаецца па даце першапачатковага апублікавання.

7. Афіцыйнае апублікаванне прававых актаў у няпоўным пераказе не дапускаецца, за выключэннем выпадкаў апублікавання актаў, якія змяшчаюць асобныя палажэнні, што не падлягаюць апублікаванню.

8. Апублікаванне прававых актаў у выданнях, не названых у пункце 4 гэтага Палажэння, ажыццяўляецца з выкананнем патрабаванняў, якія прад'яўляюцца да дзейнасці па распаўсюджанню прававой інфармацыі.

Прававыя акты могуць быць апублікаваны ў няпоўным пераказе з паметкай «Вытрымка», а таксама даведзены да ўсеагульнага ведама іншым прадугледжаным законам спосабам.

Апублікаванне, прадугледжанае гэтым пунктам, з'яўляецца неафіцыйным і ажыццяўляецца толькі пасля афіцыйнага апублікавання адпаведных прававых актаў і ў адпаведнасці з афіцыйна апублікаванымі тэкстамі гэтых актаў.

9. Прававыя акты публікуюцца з указаннем іх абавязковых рэквізітаў: назвы органа (службовай асобы), якая прыняла (выдала) прававы акт, віду акта, даты прыняцця (выдання), парадкавага нумара і назвы прававога акта.

Пры апублікаванні прававых актаў у выданнях, не названых у пункце 4 гэтага Палажэння, абавязкова ўказваюцца таксама крыніца афіцыйнага апублікавання кожнага прававога акта, нумар і дата выдачы ліцэнзіі на ажыццяўленне дзейнасці па распаўсюджанню прававой інфармацыі, калі ў адпаведнасці з заканадаўствам наяўнасць гэтай ліцэнзіі неабходна.

10. Накіраванне афіцыйных актаў для афіцыйнага апублікавання ажыццяўляецца:

дэкрэтаў, указаў, распараджэнняў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь — Адміністрацыяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь;

законаў Рэспублікі Беларусь, ратыфікаваных міжнародных дагавораў, пастаноў Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь — Сакратарыятам Савета Рэспублікі;

пастаноў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь — Сакратарыятам Палаты прадстаўнікоў;

пастаноў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь і распараджэнняў прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь — Апаратам Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь;

міжнародных дагавораў, якія не падлягаюць ратыфікацыі і якія ўступілі ў сілу для Рэспублікі Беларусь, — Міністэрствам замежных спраў;

рашэнняў Канстытуцыйнага суда — Сакратарыятам Канстытуцыйнага суда;

пастаноў пленумаў Вярхоўнага суда і Вышэйшага гаспадарчага суда — гэтымі судамі;

прававых актаў дзяржаўных органаў, непасрэдна падведамных Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь, рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, мясцовых Саветаў дэпутатаў, выканаўчых і распарадчых органаў — органамі, якія іх прынялі (выдалі).

11. Прававыя акты, накіраваныя ўпаўнаважанымі дзяржаўнымі органамі (службовымі асобамі) у адпаведныя газеты для афіцыйнага апублікавання, павінны быць апублікаваны не пазней чым у пяцідзённы тэрмін з дня іх атрымання, за выключэннем дэкрэтаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і законаў Рэспублікі Беларусь, якія падлягаюць неадкладнаму апублікаванню.

**УСТУПЛЕННЕ Ў СІЛУ ПРАВАВЫХ АКТАЎ**

12. Дэкрэты Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і законы Рэспублікі Беларусь уступаюць у сілу праз дзесяць дзён пасля іх афіцыйнага апублікавання, калі ў гэтых актах не ўстаноўлены іншы тэрмін.

Прававыя акты, якія не маюць нарматыўнага характару, рашэнні Канстытуцыйнага суда, пастановы пленумаў Вярхоўнага суда і Вышэйшага гаспадарчага суда ўступаюць у сілу з дня іх прыняцця, калі ў гэтых актах не ўстаноўлены іншы тэрмін.

Указы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь і іншыя прававыя акты, за выключэннем названых у частках першай і другой гэтага пункта і ў пункце 13 гэтага Палажэння, уступаюць у сілу з дня ўключэння іх у Нацыянальны рэестр прававых актаў Рэспублікі Беларусь, калі ў гэтых актах не ўстаноўлены іншы тэрмін.

13. Нарматыўныя прававыя акты, якія датычаць правоў, свабод і абавязкаў грамадзян, уступаюць у сілу толькі пасля іх афіцыйнага апублікавання. Пры гэтым, як правіла, акты публікуюцца пасля ўключэння іх у Нацыянальны рэестр прававых актаў Рэспублікі Беларусь.

14. Парадак уступлення ў сілу для Рэспублікі Беларусь міжнародных дагавораў вызначаецца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь і нормамі міжнароднага права.

# ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб пенсійным забеспячэнні ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога саставу органаў унутраных спраў»

*Прыняты Палатай прадстаўнікоў 11 лістапада 1998 года*
*Адобраны Саветам Рэспублікі 19 лістапада 1998 года*

**Артыкул 1.** Унесці ў Закон Рэспублікі Беларусь ад 17 снежня 1992 года «Аб пенсійным забеспячэнні ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога саставу органаў унутраных спраў» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., № 36, арт. 571) наступныя змяненні і дапаўненні:

1. У частцы першай артыкула 10 словы «дзяржаўнага бюджэту Рэспублікі Беларусь» замяніць словамі «рэспубліканскага бюджэту», словы «Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь» — словамі «Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь».

2. У частцы першай артыкула 12 словы «органамі сацыяльнага забеспячэння» замяніць словамі «органамі сацыяльнай абароны».

3. У артыкуле 46 словы «аддзел сацыяльнага забеспячэння» замяніць словамі «аддзел сацыяльнай абароны».

4. Пункт «б» часткі першай артыкула 48 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«б) афіцэрам, прапаршчыкам, мічманам і ваеннаслужачым, якія праходзяць службу па кантракту, асобам начальніцкага і радавога саставу органаў унутраных спраў — з дня звальнення са службы, але не раней дня, да якога яны былі забяспечаны грашовым забеспячэннем пры звальненні, акрамя выпадкаў прызначэння ім пенсій з больш позніх тэрмінаў пасля ўстанаўлення інваліднасці. Пры ўстанаўленні ім інваліднасці пасля заканчэння трох месяцаў з дня звальнення са службы ці з прычыны няшчаснага выпадку або захворвання, якія мелі месца пасля звальнення, пенсія прызначаецца з дня ўстанаўлення інваліднасці».

5. У частцы першай артыкула 51 словы «органамі сацыяльнага забеспячэння» замяніць словамі «органамі сацыяльнай абароны».

6. Артыкул 56 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

**Артыкул 56. Выплата пенсій пенсіянерам, якія знаходзяцца ў месцах пазбаўлення волі**

Пенсіянерам, якія знаходзяцца ў месцах пазбаўлення волі, выплачваецца розніца паміж пенсіяй і коштам утрымання, але не менш 10 працэнтаў прызначанай пенсіі і не менш 20 працэнтаў устаноўленай заканадаўствам мінімальнай пенсіі па ўзросту ў месяц.

Інвалідам вайны і іншым удзельнікам вайны пенсіі выплачваюцца ў такім жа парадку, але не менш 25 працэнтаў прызначанай пенсіі і не менш 20 працэнтаў устаноўленай заканадаўствам мінімальнай пенсіі па ўзросту ў месяц.

Сума пенсіі, якая належыць да выплаты, залічваецца на асабісты рахунак пенсіянера ў папраўчай установе па месцы адбывання пакарання.

Калі ў пенсіянера, які знаходзіцца ў месцах пазбаўлення волі, ёсць дзеці (пункт «а» часткі трэцяй артыкула 30 гэтага Закона), то пенсія выплачваецца ў наступным парадку: на адно дзіця — 25 працэнтаў, на дваіх дзяцей — 33 працэнты, на траіх і больш дзяцей — 50 працэнтаў прызначанай пенсіі, самому пенсіянеру — астатняя частка пенсіі за вылікам кошту ўтрымання ў месцах пазбаўлення волі, але не менш 10 працэнтаў (інвалідам вайны і іншым удзельнікам вайны — не менш 25 працэнтаў) прызначанай пенсіі і не менш 20 працэнтаў устаноўленай заканадаўствам мінімальнай пенсіі па ўзросту ў месяц.

Органы ўнутраных спраў, следчыя і судовыя органы абавязаны ў выпадку ўзяцця пенсіянера пад варту (асуджэння да пазбаўлення волі) паведаміць у пяцідзённы тэрмін органу, які выплачвае пенсію».

7. У частцы трэцяй артыкула 58 словы «але не менш пяціразовага размеру мінімальнай заработнай платы» выключыць.

**Артыкул 2.** Гэты Закон уступае ў сілу з першага чысла месяца, які ідзе за месяцам яго апублікавання.

**Артыкул 3.** Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь на працягу трох месяцаў:

падрыхтаваць і ўнесці ва ўстаноўленым парадку ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь прапановы па прывядзенню заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым Законам;

прывесці рашэнні Урада Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым Законам;

забяспечыць перагляд і адмену рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання, падпарадкаванымі Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь, іх нарматыўных актаў, якія супярэчаць гэтаму Закону.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА**

7 снежня 1998 г., г.Мінск.
№ 215-З

# ЗАКОНЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Аб ратыфікацыі Пагаднення аб супрацоўніцтве дзяржаў — удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў у барацьбе з незаконнай міграцыяй**

*Прыняты Палатай прадстаўнікоў 14 кастрычніка 1998 года*
*Адобраны Саветам Рэспублікі 22 кастрычніка 1998 года*

Ратыфікаваць Пагадненне аб супрацоўніцтве дзяржаў — удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў у барацьбе з незаконнай міграцыяй, падпісанае ў г. Маскве 6 сакавіка 1998 года.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА**

9 лістапада 1998 г., г. Мінск. № 209-З

**Аб ратыфікацыі Пагаднення паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Урадам Ісламскай Рэспублікі Іран аб пазбяганні двайнога падаткаабкладання і папярэджанні ўхілення ад уплаты падаткаў у дачыненні да падаткаў на даходы і маёмасць (капітал)**

*Прыняты палатай прадстаўнікоў 14 кастрычніка 1998 года*
*Адобраны Саветам Рэспублікі 22 кастрычніка 1998 года*

Ратыфікаваць Пагадненне паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Урадам Ісламскай Рэспублікі Іран аб пазбяганні двайнога падаткаабкладання і папярэджанні ўхілення ад уплаты падаткаў у дачыненні да падаткаў на даходы і маёмасць (капітал), падпісанае ў г. Мінску 14 ліпеня 1995 года.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА**

9 лістапада 1998 г., г. Мінск. № 210-З

**Аб ратыфікацыі Канвенцыі паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Урадам Рэспублікі Кіпр аб пазбяганні двайнога падаткаабкладання і папярэджанні ўхілення ад уплаты падаткаў у дачыненні да падаткаў на даходы і маёмасць**

*Прыняты Палатай прадстаўнікоў 7 кастрычніка 1998 года*
*Адобраны Саветам Рэспублікі 22 кастрычніка 1998 года*

Ратыфікаваць канвенцыю паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Урадам Рэспублікі Кіпр аб пазбяганні двайнога падаткаабкладання і папярэджанні ўхілення ад уплаты падаткаў ў дачыненні да падаткаў на даходы і маёмасць, падпісаную ў горадзе Нікасія 29 мая 1998 года.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА**

9 лістапада 1998 г., г. Мінск. № 211-З

*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...*

# КУПІЦЬ МАСЛА

Масла таго я асабіста спажываю няшмат. Ну, пакладзе яго жонка ці дачка ў кашу, іншым разам намажаш грамульку-другую на бутэрброд... Не ў масле, як той казаў, шчасце!

А тут падслухаў ад сваіх дамачадцаў, што нібыта з ім, маслам, «напруга» атрымліваецца. Маўляў, прыпасы дома заканчваюцца, а ў крамах яго ў вольным продажы няма. А калі і дадуць скрынку-другую, чарга выстройваецца, не раўнуючы як перад футбольным матчам з удзелам іспанскага «Рэала» ці на бясплатны канцэрт Алы Барысаўны Пугачовай.... Калі ёсць час і нервы ў парадку — займай чаргу і стой! Ты ж не Герой Савецкага Саюза і не поўны кавалер ордэна Мацярынскай славы...

Жонка ў нядзелю так і цікавала: калі я адарвуся ад пішучай машынкі і зраблю выгляд, што маю з паўгадзіны вольнага часу. Злавіла момант і гэтак пяшчотна-ласкава прапанавала: пойдзем, маўляў, пагуляем па свежым паветры...

Маршрут жа для той прагулкі яна выбрала акурат міма магазіна харчовых тавараў...

Яшчэ здалёк прыкмеціў: нешта ў тым магазіне чакаецца неверагоднае. Да яго навыперадкі беглі-спяшаліся жыхары ледзь не ўсяго мікраёна. Беглі мацакі-мужыкі і падлеткі-школьнікі. Беглі жанкі з немаўлятамі на руках і, вядомая справа, шаноўныя пенсіянеры-ветэраны... Тады я змікіціў: там будуць гандляваць маслам!

Жонка тузанула за рукаў: маўляў, хадзем паглядзім... Вось тут я і здагадаўся, якую «прагулку» прапанавала яна мне. Але ж што зробіш?

Прыладкаваліся ў хвасце чаргі (а яна налічвала ўжо чалавек 150, не менш), і пачалі, што называецца, заводзіць новыя знаёмствы...

Я, уласна кажучы, ведаю ўжо даўно, што людзі ў чарзе — народ асаблівы. Тут і з чалавекам неверагоднага лёсу можаш сустрэцца, і пачуць такое, што ніводзін «Рэзананс» з удзелам Зімоўскага ці «Итоги» Кісялёва не паведамяць! Не пачуеш ад іх, таму што жыццё тое яны ведаюць, мякка кажучы, слабавата...

Ветэран у шапцы-вушанцы з трусінага футра не першай свежасці, пачаў гамонку сам. Вось, кажа, і вярнуліся былыя часы, калі і ў чарзе пастаіш, і таго, чаго хочаш, можаш не набыць... «Памятаеш, — звярнуўся ён да мяне, — гады тры таму за гарэлкай душыліся? А зараз вось — за маслам...»

Мне не зусім спадабалася ягонае слова «душыліся»... «Не душымся ж, — кажу, — а стаім спакойна, радком, як у цывілізаваным свеце...»

Жанчына, што стаяла за мной, неяк стрымана-спакойна, але ўсё ж узарвалася: «Ды кіньце вы пра цывілізаваны свет! Няма там такога: ні дэфіцыту, ні чэргаў...»

Азірнуўся я: былая настаўніца маёй дачкі. Прыгадаў: сын яе стаў камерсантам, па замежжы ездзіць, мабыць, і ёй шмат што расказвае... У тым ліку і пра дэфіцыты (але ж гэтага там няма), і пра жыццё-быццё «праклятых» капіталістаў. Думаю: лепш памаўчу.

А дзед-ветэран не сунімаецца. Пачаў прыгадваць, як ужо праз год-паўтара пасля заканчэння Вялікай Айчыннай у краіне была адменена картачная сістэма размеркавання прадуктаў, як паволі, аднак перыядычна, змяншаліся на іх цэны...

— Памаўчы ты, дзед, — раптам ледзь не на вуха старому зароў-выгукнуў чырванатвары бамбіза. — Ты, бачу, удзельнічаў у той вайне? Дык навошта ж ты перамагаў у ёй? Лепш бы здаўся немцам: зараз баварскае піва пілі б за бясцэнак... А так, пайдзі вунь у бар па Уральскай: сто адзінаццаць тысяч куфаль «Ракаўскага бровара» каштуе!..»

Чарга захвалявалася, зашумела... Адны — пераважна сталага веку людзі — накінуліся на чырванатварага. Маўляў, навошта ты, шаноўны, зневажаеш ветэрана: ён свет (і сапраўды!) ад карычневай чумы ўратаваў... Другія — хутчэй за ўсё тыя, што грошы лічыць умеюць, — загулі ад іншага: няўжо і сапраўды куфаль піва ўжо па 111 тысяч «рэ» каштуе?

«Каштуе!» — не стрымаўся я. — Сам учора бачыў...»

Ад старога бедалагі пакрысе адсталі. Чарга тым часам паволі, аднак упэўнена, рухалася наперад...

— Памаўчыце, людцы, пастаім гадзіну-другую, нічога з намі не зробіцца, — уступіла ў гамонку прывабная на выгляд жанчынка. — Было б што купляць! Ды каб цана, пранцы на яе, не расла... Вунь, гляньце: маргарын ужо па 270 тысяч за кіло, а масліца, бачыце, усяго толькі 175 тысяч...

Сапраўды, падумалася, трэба маўчаць. А то, крый Божа, убачаць ці даведаюцца тыя, хто гэта «праваронілў», і тут жа цану падымуць...

Так не толькі я падумаў — думаю, паўчаргі, не менш.

— Цукру, макароны, круп я ўжо назапасіла, — на вуха, аднак досыць зычна, казала суседцы другая жанчына-маладзіца. — Вось бы масла яшчэ прыхапіць! Вы пастойце, а я па дзетак збегаю. Няхай і яны возьмуць...

Дзетак яна і сапраўды неўзабаве прывяла. Ажно двое! Яны, праўда, упарціліся, адчувалі сябе ніякавата, але маму слухалі. Відаць, пакуль беглі да магазіна, тая з імі правяла адпаведную размову...

...Пра што толькі не перагаварылі людзі ў той чарзе! І пра запаветныя масла і смятану; і пра цэны, што растуць не па днях, а па гадзінах; і пра заробкі, якіх хапае на тыдзень-паўтара; і пра рост кватрплаты, якая, нібыта, вось-вось павялічыцца адразу ў два разы... Балазе, выказацца часу хапіла ўсім і кожнаму: у чарзе мы правялі звыш дзвюх з паловай гадзін!

Масла мы, дзякуй Богу, купілі. 400 грамаў я, столькі ж — жонка. На месяц, а мо і больш хопіць. У наступную нядзелю паспрабуем пастаяць у чарзе за смятанай. А раптам і яе хопіць усім! Ды і кіраўніцтва маё, думаю, не будзе супраць, калі я выканаю яшчэ адно заданне...

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**

*ПОГЛЯД*

# ГАНДАЛЬ САМ ПАДКАЗВАЕ, ШТО БУДЗЕ ДАРАЖЭЦЬ

**Апошнім часам з высокіх трыбун не сціхаюць папрокі ў адрас усіх спажыўцоў: маўляў, вы самі правакуеце ажыятажны попыт. Каб не было вашага «хапуна», усё ляжала б на паліцах. Адсюль напрошваецца лагічная выснова — бяры, колькі табе сапраўды патрэбна, а не рабі запасаў.**

Ну, з маслам і яйкамі тут усё зразумела: іх як не было ў дастатковай колькасці ў продажы (пастаўкі тых жа яек, мяса птушкі ў Расію цалкам ніхто не адмяняў, крыху зменшылі толькі аб'-ёмы вывазу), так і няма. Калі ёсць, гэта бачна па чэргах. Нібы сігнал для пакупніка запальваецца: станавіся, не думай, дэфіцыт даюць, ужо потым разбярэшся — які канкрэтна. Не станеш — не атрымаеш. Вось і першая прычына.

Але апошнім часам (правяраў неаднойчы) з'явілася яшчэ адна стабільная прымета, якая гаворыць з дакладнасцю «на ўсе сто», які тавар будзе даражэць наступным. Прадастаўляе такую паслугу сам... гандаль.

Па прыклады далёка хадзіць не трэба. У маім універсаме палова паліц у цэнтры гандлёвай залы была завалена пакетамі з сухарамі. Раптам яны зніклі, і з'явіліся на ранейшым месцы толькі праз некалькі дзён. Але — па новых цэнах. Каштаваў пакет 12 тысяч, стаў — 16 тысяч. Стаяла ў свабодным продажы мінеральная вада. Двухлітровая бутэлька каштавала 28 тысяч. Гляджу, нібыта спыніўся той завод — тавар гэты раптам знік, нібы яго тут ніколі і не было. Усё ў парадку — праз дзень-другі паліцы зноў поўныя, але цана той жа бутэлькі — ужо 33 тысячы. Гэта дробязь, ёсць прыклады больш важкія. Ці даўно вы бачылі ў крамах цукар? Прамільгнуў ён некалькі дзён па 73-74 тысячы рублёў за кілаграм, і знік.

Як думаеце, вернецца па старой цане?.. Усё ў тым жа магазіне вітрына-халадзільнік была закладзена кавалкамі сыру (больш туды класці няма чаго). Заходжу вечарам — гола, хаця напярэдадні ніхто яго не браў, ён тут ужо каторы дзень свабодна ляжаў. Якія высновы я павінен рабіць? Зайшоўшы ў другі магазін і ўбачыўшы, што там ёсць тое, што па невядомай прычыне знікла ў папярэднім, ці ўстрымаюся я, каб не набыць (так, на ўсякі выпадак) гэты тавар?! Да таго ж, я не адзін хаджу па крамах і маю вочы.

Нядаўна па тэлевізары прагучаў папрок: няўжо вы не ўмееце павялічваць цэны? Думаю, што не ўмеюць. Каб умелі, рабілі б гэта так, каб сапраўды не з'яўляўся ажыятаж.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

*ПОГЛЯД*

# ФІЛАСОФІЯ ГАЛЕЧЫ

Стагнацыя нашага грамадства выклікана многімі фактарамі, але, бадай, самы важны з іх — працяглая ізаляванасць народа ад знешняга свету.

Людзі немаладога веку нічога добрага ў сваім жыцці не бачылі. У іх парушана арыентацыя, няма рэальнага адпраўнога пункту, пачынаючы з якога можна было б адлічваць станоўчы ці адмоўны перыяд у жыцці. Можна сказаць, што тады жылі добра, але з чым параўнаць тое жыццё, калі невядома, як жывуць іншыя, там, «за бугром».

— На сваю пенсію ў сорак шэсць рублёў я магла апрануцца. Купіць фуфайку, гумавыя боты і світэр, — гаворыць вясковая кабета, — а сёння што купіш?

І на самай справе было так. Але тут прыцягвае ўвагу пералік рэчаў. І ён не выпадковы. Фуфайку і гумовікі жанчына насіла штодня, акрамя хіба што святаў ды паездкі ў горад. Брэжнеўскія часы — гэта найлепшы перыяд у жыцці савецкага чалавека. Людзі ў той час маглі купіць не толькі тэлевізар але пры пэўнай эканоміі і аўтамашыну. Вось толькі аўтамабіль быў марай, вяршыняй дабрабыту, а фуфайка — рэч звыклая і неабходная.

Што там, за мяжой, беспрацоўе і прыгнёт, ведалі, пра гэта пісалася і гаварылася, а пра ўсё астатняе прыходзілася толькі здагадвацца.

Жыццёвыя запатрабаванні ў большасці простых людзей надзвычай нізкія.

— Чаго тут ужо плакацца, — разважае ў чарзе пенсіянерка, — хлеб ёсць і малачка купіць можна.

Калі глядзець на сённяшнюю эканамічную сітуацыю ў краіне з пазіцый гэтай жанчыны, то яшчэ нічога страшнага няма, бо былі ў яе жыцці часы, калі і хлеба не было.

І не будзем здзіўляцца, калі былыя калгаснікі, атрымаўшы 3 млн. пенсіі на дваіх, усё ж не могуць зразумець, за што ім грошы плацяць.

— Калі рабілі — нічога не давалі, а цяпер сядзім і такія грошы даюць, — паціскаюць плячыма старыя.

Ды і гараджане — учарашнія вяскоўцы таксама не жадаюць лавіць жураўля ў небе — абыходзяцца мінімумам. Складваецца ўражанне, што калі летам не працуе завод, то рабочыя не вельмі смуткуюць — сядзяць па дачах і ў вёсках, якія выратуюць і ў больш складаным становішчы.

У знаёмага разам з жонкай зарплата — пяць мільнаў, але ён даволі бадзёры. Пад зіму прывёз свежаніну ад бацькі і цешчы, а пад вясну таксама перападзе. Праўда, з кожным годам ухапіць з вёскі шанцаў меней — старыя паміраюць.

«Каб толькі не было горш», — прыходзіцца чуць ад людзей старэйшага ды і сярэдняга ўзросту ў магазіне і за чаркай. І гэта не проста словы, а спосаб мыслення, свая філасофія — уклад жыцця. Пры пастаяннай аглядцы назад, у мінулае, няма перспектывы, аптымізму і жыццёвай сілы.

І як сімвалічна, калі стары, які ўсё жыццё збіраў грошы, шкадаваў сабе лішні акраец хлеба з'есці, паміраючы, просіць, каб яго пахавалі хараша, з вянкамі, і на памінкі на сталы не стаўлялі самагонку, а толькі куплёную гарэлку.

Памятаю, як група работнікаў аднаго завода паехала турыстамі ў тагачасную Югаславію. Ад'язджалі ўпэўненыя, а вярнуліся прыціхлыя, бо жыццё нават у той сацыялістычнай краіне падалося раем. З'явілася магчымасць параўнаць рэаліі жыцця.

Але ў сябе цяжка штосьці перайначыць, таму што праехацца турыстам — тое самае, што паглядзець кіно. Паглядзеў ды і забыўся.

Вядома ж, важнейшую ролю для чалавека адыгрывае дзяржава. Якую перспектыву яна адкрывае для сваіх грамадзян? Што можа ім прапанаваць? І не на словах, а на справе.

Бо казкі пра камунізм разыходзіліся з рэальным жыццём, а калі дзяржава дзесяцігоддзямі хлусіла людзям, то гэта параджала песімізм і безвыходнасць, нягледзячы на афіцыйную ўзнёслую рыторыку.

Але для беларусаў безвыходнасць адкладвалася ў свядомасці вякамі. Апатыя і безвыходнасць — дзеці галечы.

Абсалютна памылковая думка, што беларусам (літвінам) у Вялікім княстве Літоўскім жылося добра. Магчыма, і жылося, але толькі калі Княства было самастойнай дзяржавай. Пасля Люблінскай уніі 1569 года ВКЛ аб'ядноўваецца з Польшчай у адну федэратыўную дзяржаву — Рэч Паспалітую. І хаця ў Княства ёсць свая армія, казна, суд і г. д., гэта ўжо васал Кароны. Бясконцыя войны з Маскоўскай дзяржавай, на якія падштурхоўвала Польшча, абяскровілі Княства і давялі краіну да поўнай галечы.

Усіх вандроўнікаў, якія пабывалі на Беларусі, здзіўляла галеча, у якой жылі людзі. Нічога не змянілася, калі нашы землі апынуліся пад Расіяй. Нават рускія чыноўнікі, якія наведвалі Беларусь, былі ўражаны беднасцю тутэйшага люду.

Фактычна і ў нашым стагоддзі мала што змянілася. Адна вайна, другая, палітычна-сацыяльныя пeратурбацыі напрыканцы не выратавалі беларусаў ад абдымкаў галечы.

Калі думаць толькі пра «скварку і чарку», то чалавеку, як і грамадству ў цэлым, немагчыма будзе пазбавіцца ад адчування сваёй непаўнацэннасці.

Беднасць не загана, але і ганарыцца гэтым не прыходзіцца.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**



Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.

# МАГІЛЁЎ ЗРАБІЎ ПРАРЫЎ У СФЕРЫ ІНАВАЦЫЙНАГА БІЗНЕСУ

**Днямі ў абласным цэнтры адбылося ўрачыстае адкрыццё ЗАТ «Тэхналагічны парк Магілёў» і прайшоў семінар «Інавацыйная структура і яе роля ў эканамічным развіцці».**

Ідэя стварэння тэхналагічнага парка нарадзілася ў Магілёве гадоў пяць таму. Шмат перагавораў, некалькі міжнародных канферэнцый, паездкі па пераймванню вопыту папярэднічалі прыняццю ў 1996 годзе рашэння аб рэалізацыі праекта «Тэхнапарк Магілёў» у адпаведнасці з міжурадавым пагадненнем паміж Рэспублікай Беларусь і ФРГ па праграме «Трансформ».

— Мы выбралі Магілёў таму, што ідэя тут была ўжо народжана, а кіраўніцтва палітычна і эканамічна было гатова да стварэння бізнес-парка, — падкрэслівае сёння саветнік Пасольства ФРГ у Беларусі Кірк Мілднер. — Важна, што мы нічога не вырашаем, а толькі раім, дапамагаем беларускім партнёрам увасобіць іх ідэі і жаданні ў жыццё.

Створанае акцыянернае таварыства атрымала ў цэнтры горада 9-павярховы будынак, адрамантаваны па еўрастандарту за кошт мясцовых і рэспубліканскага бюджэтаў. Акрамя кансультацыйнай дапамогі экспертаў, нямецкі бок выдаткаваў сто тысяч нямецкіх марак для набыцця мэблі і тэхнікі для офісных памяшканняў.

— Гэты тэхнапарк з'яўляецца пілотным, узорным для іншых габадоў Беларусі, — сказала кіраўнік беларуска-нямецкага праекта Ангеліка Маер. — Спадзяёмся, што мэры возьмуць гэты праект на ўзбраенне.

Тэхналагічны парк створаны для падтрымкі малога бізнесу, пачынаючых прадпрымальнікаў, якія працуюць у навукова-даследчым і прамысловым сектары, маюць новыя ідэі, распрацоўваюць канкурэнтаздольныя тэхналогіі. Асаблівая ўвага будзе ўдзелена тым маладым кампаніям, якія маюць дачыненне да НДІ і ВНУ Магілёва.

— Я чакаю, што нарэшце разварушыцца наша навуковая думка, хопіць ёй драмаць, — выказаў свае надзеі мэр Магілёва Дзмітрый Сівіцкі. — Усе, хто раней сумняваўся ў магчымасці паспяхова займацца ў нас інавацыйна накіраваным бізнесам, знойдуць падтрымку ў гэтым цудоўным будынку.

Пачынаючым прадпрымальнікам і фірмам «Тэхналагічны парк Магілёў» прадаставіць офісныя памяшканні высокага ўзроўню ў арэнду і на працягу чатырох гадоў ільготы — аплачваць прыйдзецца ад 10 да 75 працэнтаў ад агульнапрынятых нормаў. Акрамя гэтага кансультацыі, наладжванне кантактаў з партнёрамі, камп'ютэрная лабараторыя, сучасныя сродкі тэлекамунікацыі. З такой падтрымкай маладых бізнесменаў поспех іх прадпрыемстваў нашмат павялічваецца.

— Цяжка пераацаніць факт стварэння такіх умоў — вельмі блізкіх да еўрапейскіх, якія дазволяць перш за ўсё нашым вучоным, якія працуюць у тым ліку і ў навучальных установах, раскрыць свой патэнцыял, — сказаў віцэ-прэм'ер беларускага ўрада Генадзь Навіцкі, які прысутнічаў на цырымоніі адкрыцця «Тэхнапарк Магілёў». — У адрозненне ад не вельмі ўдалых падобных спроб у Расіі, Балгарыі, Малдове, тут аб'ядналіся інтарэсы ўладаў, прадпрымальнікаў, замежных інвестараў, і вынік прыемна здзіўляе.

— Укараненне новых тэхналогій дае большы эфект, чым мадэрнізацыя вытворчасцяў са старымі тэхналогіямі, — працягнуў тэму губернатар Магілёўскай вобласці Аляксандр Кулічкоў. — Мы можам бясконца ўдасканальваць тэхналогію колькі доўга, але эфекту не атрымаем, бо трэба перайсці на новыя віды паліва... Вось апошняга мы, вобразна кажучы, і чакаем ад нашага тэхнапарка.

Па інфармацыі кіраўніцтва «Тэхналагічнага парка Магілёў», у дзень адкрыцця будынка засяляцца шэсць малых прадпрыемстваў, у бліжэйшым будучым — дзесяць астатніх. Улічваючы, што гэта першы станоўчы вопыт у Беларусі ў сферы падтрымкі бізнесу, заснаванага на распрацоўцы новых ідэй і тэхналогій, магіляўчане прапанавалі свае паслугі для вырашэння праблем рэспублікі.

**Ілона ІВАНОВА.**

## *ВІНШАВАННІ*

*Віншуем з днём нараджэння* ***Мікалая Уладзіміравіча СВІРЫДЗЕНКУ.*** *Жадаем радасці, шчасця, здароўя, усяго найлепшага ў жыцці.*

**Бацькі, браты, дзядуля і бабуля з Брагінскага раёна.**

*Віншуем* ***Вольгу Мікалаеўну ЛЕШЫК*** *з в. Любейкі Ляхавіцкага раёна з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, доўгіх гадоў жыцця, поспехаў у справах.*

**Сыны, нявесткі, унукі,** *г. Мінск.*

*Шчыра віншуем з днём нараджэння* ***Міхаіла Міхайлавіча АМБРАЖЭВІЧА*** *з г. Мінска. Жадаем шчасця, здароўя, дабрабыту і даўгалецця.*

**Сям'я Амбражэвічаў,** *г. Слуцк.*

*Віншуем* ***Надзею Максімаўну КАПЛУН*** *з 77-годдзем. Жадаем дабрабыту, шчасця, бадзёрасці на доўгія гады.*

**Муж, сын,** *в. Сянно.*

# ПРАМАЯ ЛІНІЯ

# ІЛЬГОТЫ, ПЕНСІІ, ДАПАМОГІ...

## На пытанні чытачоў «Звязды» адказвае міністр сацыяльнай абароны Беларусі Вольга Браніславаўна ДАРГЕЛЬ

**Улічваючы колькасць папярэдніх званкоў і пісьмаў у рэдакцыю, мы адчувалі, што гэта размова будзе няпростай. Менавіта так і атрымалася. Бо не сакрэт: першы «ўдар» любога крызісу заўсёды прымаюць пенсіянеры, інваліды, сем'і, якія маюць дзяцей. На што павінны разлічваць усе яны ў будучым і што можа зараз зрабіць дзяржава па падтрымцы самых неабароненых катэгорый насельніцтва краіны? Адказы на гэтыя пытанні мы шукалі падчас «прамой лініі» з міністрам сацыяльнай абароны Вольгай Браніславаўнай ДАРГЕЛЬ.**

**— Калі пры налічэнні пенсій будзе ўлічвацца каэфіцыент заробку звыш 1,3?**

***І. П. Кашкевіч,** г. Маладзечна.*

— У пенсіянераў, індывідуальны каэфіцыент заробку якіх 1,3 і вышэй, памеры пенсій зараз сапраўды аднолькавыя і адрозніваюцца толькі ў тым выпадку, калі ёсць падставы для налічэння надбавак і павышэнняў. Гэта вельмі адмоўна ўспрымаецца тымі пенсіянерамі, якія да выхаду на пенсію мелі высокі заробак і, адпаведна, унеслі большы ўклад у фінансаванне пенсійнай сістэмы. Невысокі ўзровень пенсійнага забеспячэння, а таксама адсутнасць поўнай дыферэнцыяцыі ў памерах пенсій у залежнасці ад працоўнага ўкладу да выхаду на пенсію застаюцца сёння, без перабольшання, галоўнымі праблемамі пенсійнай сістэмы. Але давайце разбірацца разам. Узровень пенсійнага забеспячэння непасрэдна залежыць ад узроўню аплаты працы працуючай часткі насельніцтва, паколькі адзінай крыніцай фінансавання выдаткаў на выплату працоўных пенсій з'яўляюцца бягучыя страхавыя ўзносы наймальнікаў і працуючых грамадзян. Менавіта абмежаванасцю сродкаў Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва, у якім акумуліруюцца сродкі на выплату працоўных пенсій, тлумачыцца тая акалічнасць, што для вылічэння працоўных пенсій прымаецца заробак не вышэй 130 працэнтаў ад сярэдняй зарплаты рабочых і служачых у краіне.

Пры з'яўленні дадатковых фінансавых магчымасцяў Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва ў пенсійнае заканадаўства будуць уносіцца змены, накіраваныя на павышэнне ўзроўню пенсійнага забеспячэння. У прыватнасці, Міністэрствам сацыяльнай абароны падрыхтаваны законапраект, у якім прапануецца пры вылічэнні памеру пенсіі ўлічваць пэўную частку заробку звыш 130 працэнтаў сярэдняй зарплаты рабочых і служачых у краіне. Зараз гэты праект разглядаецца ў Адміністрацыі Прэзідэнта. Мы мяркуем, што яго рэалізацыя дазволіць крышку ўзмацніць дыферэнцыяцыю памераў пенсій у залежнасці ад працоўнага ўкладу пенсіянераў у мінулым.

**— Пасля выхаду на пенсію працаваў яшчэ 3 гады. Ці можна залічыць гэтыя 3 гады ў стаж?**

***А. А. Траццякоў,** г. Мінск.*

**Чаму ў працоўны стаж не залічваецца работа пасля прызначэння пенсіі?**

***А. Я. Ласькова,** г. Скідаль.*

— Цяперашняе заканадаўства вызначае, што з 1 студзеня 1991 года работа пасля прызначэння пенсіі па ўзросту, а таксама іншага віду пенсіі пасля дасягнення агульнаўсталяванага пенсійнага ўзросту (60 гадоў для мужчын, 55 — для жанчын) залічваецца ў стаж пры ўмове, калі пенсіянер не атрымліваў за гэты перыяд пенсіі.

Справа ў тым, што ў пенсійных сістэмах, якія заснаваны на прынцыпах салідарнасці пакаленняў, калі працуючы робіць адлічэнні са свайго заробку на выплату пенсій непрацаздольным, пенсія разглядаецца як своеасаблівая кампенсацыя зарплаты тым, каго ты змяніў на рынку працы. Перыяды працы з адначасовым атрыманнем пенсіі ў такіх выпадках не з'яўляюцца падставай для яе пераразліку. Пры гэтым хацелася б нагадаць, што згодна з артыкулам $23^{1}$ Закона «Аб пенсійным забеспячэнні» кожнаму грамадзяніну краіны, які выходзіць на пенсію, прадастаўлена магчымасць выбару: аформіць пенсію па ўзросту з моманту з'яўлення такога права або адкласці свой выхад на пенсію і атрымаць павелічэнне яе памеру на 1 працэнт заробку (але не менш чым на 1 працэнт мінімальнага памеру пенсіі) за кожныя два поўныя месяцы працы пасля з'яўлення права на пенсію да дня звароту за яе прызначэннем.

**— У пенсійнае заканадаўства ўнесена папраўка, паводле якой грамадзяне, якія пасля дасягнення пенсійнага ўзросту не атрымліваюць пенсіі і працягваюць працаваць, потым атрымліваюць павышэнне пенсіі на 1 працэнт за кожныя два месяцы працы. Чаму гэта перавага распаўсюджваецца толькі на тых, хто выходзіць на пенсію з 1 верасня? Як з астатнімі?**

***К. П. Кабашнікаў,** г. Мінск.*

— Нагадаем вядомае: закон зваротнай сілы не мае. Артыкул $23^{1}$ Закона, аб якім ідзе гаворка, пачаў дзейнічаць з 1 верасня 1998 года, а таму распаўсюджваецца на асоб, якія звярнуліся за прызначэннем пенсіі па ўзросту пасля гэтай даты. Разам з тым трэба звярнуць увагу на тую акалічнасць, што норма артыкула $23^{1}$ распаўсюджваецца таксама на асоб, якія пасля 1 верасня 1998 года адмовяцца ад атрымання ўжо прызначанай ім пенсіі па ўзросту на агульных падставах.

**— Чаму з 1991 года праца пасля прызначэння пенсіі не залічваецца ў стаж? З майго заробку штомесяц утрымліваюцца ўсе падаткі, у тым ліку пенсійныя адлічэнні. Да таго ж атрымліваецца так, што ў мяне не хапае стажу (45-ці гадоў) для прызначэння максімальнай пенсіі не з-за таго, што я мала працаваў, а проста таму, што пайшоў на пенсію па ўзросту па Спісу № 1...**

***І. Л. Бейль,** г. Мінск.*

— Асобам, якім прызначаны пенсіі па ўзросту на льготных падставах (гэта датычыцца і Спіса № 1) пасля дасягнення агульнаўсталяванага пенсійнага ўзросту (60 гадоў для мужчын, 55 — для жанчын), робіцца пераразлік пенсіі з улікам стажу работы пасля прызначэння пенсіі. Пры гэтым трэба ўлічваць, што праца пасля дасягнення ўказанага ўзросту залічваецца ў стаж, калі пенсіянер не атрымліваў пенсію ў гэты перыяд. Наколькі нам вядома, вам, Іосіф Львовіч, такі пераразлік быў зроблены ў жніўні 1995 года.

**— Паводле Закона, максімальная пенсія для жанчын прызначаецца пры працоўным стажы 40 гадоў. Як можа хто-небудзь зарабіць такі стаж?**

***В. А. Натанская,** г. Ганцавічы.*

— Трэба мець на ўвазе, што права на поўную працоўную пенсію жанчыне дае стаж 20, а мужчыну — 25 гадоў. Што да стажу 40 гадоў — для жанчын і 45 гадоў — для мужчын, то для разліку пенсій гэтыя лічбы з'яўляюцца сапраўды максімальнымі.

**— Ці праўда, што ў хуткім часе працуючыя пенсіянеры-настаўнікі паўстануць перад выбарам: або працягваць працаваць або атрымліваць пенсію?**

***А. А. Касімоўская,** г. Мінск.*

— Гэта пытанне хвалюе не толькі пенсіянераў-настаўнікаў, але і ўсе іншыя катэгорыі пенсіянераў — усіх, хто працягвае працаваць. Наша пенсійнае заканадаўства не ўстанаўлівае абмежаванняў па выплаце пенсій працуючым пенсіянерам, за выключэннем некаторых выпадкаў. Такі падыход мае па сутнасці адну прычыну — нізкі ўзровень пенсій у большасці іх атрымальнікаў. Для большасці пенсіянераў працяг працы сёння застаецца элементарнай жыццёвай неабходнасцю. Таму праблема выплаты пенсій працуючым пенсіянерам — справа не сённяшняга дня. Гэта праблема будзе вырашацца паступова, падчас рэфарміравання пенсійнай сістэмы краіны.

**— Да якога часу будзе выплачвацца пенсія высокааплатным кіраўнікам прадпрыемстваў, работнікам бюджэтнай сферы, якія выходзяць на пенсію, працягваюць працаваць і атрымліваць па 10—15 мільёнаў рублёў?**

***І. Іваненка, В. Нікалаеў, З. Вайцяховіч, П. Парфяновіч,** г. Глыбокае.*

— Сапраўды, у большасці выпадкаў пенсіі па ўзросту, па інваліднасці і па страце карміцеля выплачваюцца без уліку даходу (заробку) пенсіянера. Выплата пенсіі ў перыяд працы не прадугледжваецца толькі наступным катэгорыям. Па-першае, пенсіянерам за выслугу гадоў, калі яны працягваюць працаваць на пасадах, работа на якіх дае права на такую пенсію. Па-другое, пенсіянерам за выслугу гадоў — служачым дзяржаўнага апарату. І, па-трэцяе, пенсіянерам, якія атрымліваюць пенсію, прызначаную да дасягнення пенсійнага ўзросту ў сувязі з працяглым беспрацоўем.

Вядома, мы ў міністэрстве згодныя, што нормы аб выплаце пенсій працуючым пенсіянерам маюць патрэбу ў пэўнай карэкціроўцы. Аднак праблема выплаты пенсій працуючым пенсіянерам шматбаковая, і яе вырашэнне не можа быць адназначным. Нягледзячы на тое, што зараз на выплату пенсій працуючым пенсіянерам выдаткоўваецца каля 15 працэнтаў агульнай сумы сродкаў на пенсійнае забеспячэнне і што за кошт гэтых сродкаў можна было б павялічыць пенсіі тым, хто ўжо не ў стане працаваць, даводзіцца канстатаваць, што ва ўмовах эканамічнага крызісу пенсіянераў вымушае працаваць іх нізкі жыццёвы ўзровень, да таго ж працаваць, як правіла, на нізкакваліфікаваных і малааплатных работах. Ёсць і яшчэ адна істотная акалічнасць. У сувязі са змяненнем кан'юнктуры рынку працы нярэдка сітуацыя складваецца такім чынам, што пенсіянеры мімаволі з'яўляюцца адзінымі карміцелямі сваіх дарослых беспрацоўных дзяцей.

**— Маю вышэйшую адукацыю. З 43 гадоў стажу 15 працаваў начальнікам цэха. Зараз атрымліваю амаль максімальную пенсію. Чаму былыя вайскоўцы з нізкім узроўнем адукацыі маюць пенсію на мільён рублёў больш, чым я? Ці будзем калі-небудзь мы, кваліфікаваныя ІТР, атрымліваць пенсію хоць бы на ўзроўні прапаршчыкаў з адукацыяй 7—10 класаў?**

***І. В. Крэмнеў,** г. Барысаў.*

— Узровень пенсійнага забеспячэння ваеннаслужачых заўсёды быў вышэйшы за ўзровень пенсійнага забеспячэння іншых грамадзян. Да прыкладу, у 1990 годзе максімальная пенсія па ўзросту складала 120 рублёў (з улікам надбаўкі за бесперапынны стаж больш 20 (25) гадоў — 132 рублі), тады як максімальныя пенсіі ваеннаслужачых былі ў той жа час ад 120 да 350 рублёў. Памеры пенсій ваеннаслужачых вызначаюцца магчымасцямі рэспубліканскага бюджэту, з якога робіцца фінансаванне выплат гэтых пенсій. Ваеннаслужачыя не падлягаюць дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню, і пытанні іх пенсійнага забеспячэння рэгулююцца асобным Законам «Аб пенсійным забеспячэнні ваеннаслужачых, асоб кіруючага і радавога саставу органаў унутраных спраў». Працоўныя ж пенсіі прызначаюцца ў адпаведнасці з Законам «Аб пенсійным забеспячэнні». Асноўнай крыніцай фінансавання выдаткаў на выплату гэтых пенсій з'яўляюцца страхавыя ўзносы работадаўцаў (у асноўным 35 працэнтаў ад фонду аплаты працы) і працуючых грамадзян (1 працэнт ад зарплаты). Гэтыя ўзносы акумуліруюцца ў самастойным фондзе — Фондзе сацыяльнай абароны насельніцтва. На жаль, нізкі ўзровень заробкаў працуючых грамадзян вядзе да невялікіх узносаў у фонд і, як вынік, да такога ж нізкага ўзроўню пенсійнага забеспячэння.

**— Да 1 красавіка атрымліваў у аддзеле сацыяльнай абароны пенсію з павышэннем за асаблівыя заслугі. Зараз атрымліваю пенсію па нормах Закона «Аб пенсійным забеспячэнні ваеннаслужачых, асоб кіруючага і радавога саставу органаў унутраных спраў» па лініі Міністэрства абароны. Чаму да маёй пенсіі не выплачваецца павышэнне за асаблівыя заслугі?**

***С. А. Рубанаў,** г. Крупкі.*

— Таму, Сцяпан Алімпіевіч, што заканадаўствам, якое рэгулюе пытанні пенсійнага забеспячэння ваеннаслужачых, асоб кіруючага і радавога саставу органаў унутраных спраў, устанаўленне пенсіі за асаблівыя заслугі перад Рэспублікай Беларусь не прадугледжваецца.

**— Вольга Браніславаўна, патлумачце, калі ласка, што азначае запіс у пастанове Савета Міністраў ад 19 лістапада «правесці ў снежні 1998 года карэкціроўку фактычнага заробку пенсіянераў?»**

***А. І. Скуратовіч,** г. Мінск.*

— Як вядома, чарговая карэкціроўка фактычнага заробку пенсіянера і адпаведны пераразлік пенсіі робіцца на падставе Закона «Аб пенсійным забеспячэнні», калі сярэдняя зарплата рабочых і служачых у краіне ў параўнанні з яе велічынёй, якая ўжывалася пры папярэдняй карэкціроўцы, узрасла больш чым на 15 працэнтаў. Звесткі аб росце сярэдняй зарплаты паведамляюцца Міністэрствам статыстыкі і аналізу пасля 22 числа кожнага месяца. Паколькі 19 лістапада, на момант прыняцця пастановы, такіх звестак яшчэ не было, урад у сувязі з ростам цэн на спажывецкія тавары прыняў рашэнне аб карэкціроўцы заробку для вылічэння пенсій і пераразліку саміх пенсій у снежні незалежна ад таго, будзе або не пераадолены вызначаны законам 15-працэнтны «бар'ер». Дарэчы, як высветлілася пасля пераразліку, рост снежаньскіх працоўных пенсій склаў у сярэднім 22,9 працэнта.

**— Чаму пры пераразліку пенсій у снежні не былі пераразлічаны надбаўкі да іх для інвалідаў вайны?**

***П. Б. Бляўскі,** г. Мінск.*

— Таму, Пётр Барысавіч, што пераразлік надбавак да пенсій залежыць не ад росту сярэдняй зарплаты рабочых і служачых, а ад росту мінімальнай заработнай платы. У снежні «мінімалка» засталася ранейшай (350 тысяч рублёў), адпаведна, засталася ранейшай і ваша надбаўка.

**— Да 1991 года працаваў у органах дзяржаўнага кіравання, з 29 сакавіка таго ж года мне была ўстаноўлена персанальная пенсія рэспубліканскага значэння. Зараз атрымліваю пенсію па ўзросту. Сёлета звярнуўся за прызначэннем пенсіі за выслугу гадоў як дзяржаўнаму служачаму, аднак атрымаў адмову. Чаму?**

***Я. У. Жыгарэвіч,** г. Мінск.*

— Паводле цяперашняга заканадаўства дзяржаўныя служачыя маюць права на пенсію за выслугу гадоў пры дасягненні мужчынамі ўзросту 55 гадоў, жанчынамі — 50 гадоў і наяўнасці стажу работы ў якасці дзяржаўнага служачага не менш як 20 гадоў, пры гэтым не менш як два гады — пасля 1 сакавіка 1994 года. Незалежна ад апошняй умовы (калі выконваюцца дзве першыя) пенсія за выслугу гадоў можа быць прызначана дзяржаўным служачым, якія выйшлі ў адстаўку (на пенсію) у перыяд з 1 сакавіка 1994 года па 11 верасня 1997 года. Да дасягнення агульнаўсталяванага пенсійнага ўзросту пенсіі за выслугу гадоў дзяржслужачым выплачваюцца ў памеры 50 працэнтаў. У перыяд работы або заняцця прадпрымальніцкай дзейнасцю выплата гэтых пенсій прыпыняецца.

Цяпер, Якаў Уладзіміравіч, непасрэдна да вашага пытання. Паколькі пасля 1 сакавіка 1994 года ў органах дзяржкіравання вы не працавалі і не выходзілі ў адстаўку ў адпаведнасці з заканадаўствам аб службе ў дзяржаўным апараце, то падстаў для прызначэння Вам пенсіі за выслугу гадоў няма.

**— Маю 33 гады педагагічнага стажу, з якіх непрацяглы час працавала ў якасці выкладчыка педагагічнага класа пры сярэдняй школе і старшай піянерважатай. Ці будуць залічаны ў спецыяльны стаж для прызначэння пенсіі за выслугу гадоў гэтыя перыяды работы?**

***С. У. Пацей,** г. Светлагорск.*

— У спецыяльны стаж працы, які дае асобным катэгорыям педагагічных работнікаў права на пенсію за выслугу гадоў, залічваецца работа, прадугледжаная зацверджаным пастановай Савета Міністраў Пералікам. Гэтым Пералікам прадугледжаны выкладчыкі пачатковых, базавых і сярэдніх школ, незалежна ад іх прыналежнасці. Калі педагагічны клас, у якім Вы працавалі, уваходзіў у састаў сярэдняй школы, то работа ў гэтым класе можа быць залічана ў стаж, які дае права на пенсію за выслугу гадоў. Разам з тым работа на пасадзе старшай піянерважатай у спецыяльны стаж не залічваецца.

**— Нарадзіўся 7 верасня 1939 года. З 1949 па 1956 год працаваў у калгасе, што могуць пацвердзіць асабовыя рахункі. Чаму гэты перыяд працы не залічваецца ў мой працоўны стаж як члену калгаса?**

***А. Ф. Бычкоўскі,** г. Мінск.*

— Ва ўзросце ад 10 да 16 гадоў Вы не з'яўляліся членам калгаса і працавалі ў ім у вольны ад вучобы час. Гэты перыяд працы можа быць залічаны ў Ваш працоўны стаж, але па фактычнай працягласці. Нагадаю, што праца ў калгасе да 1 студзеня 1966 года залічваецца за год стажу незалежна ад колькасці выпрацаваных працадзён толькі членам калгаса. Для іншых асоб (у тым ліку для членаў калгаснага двара), якія працавалі ў калгасе, але не з'яўляліся яго членамі, такі парадак вылічэння стажу не прадугледжваецца.

**— Я маці семярых дзяцей, у студзені пятаму дзіцяці спаўняецца 16 гадоў. Так атрымалася, што з 1983 года давялося працаваць у розных калгасах раёна. У 1986 годзе, у сувязі з пераездам з адной гаспадаркі ў другую, пэўны час не працавала, хаця ўсталяваны мінімум у тым жа годзе быў выпрацаваны. Патлумачце, ці будзе залічаны мне ў стаж, які дае права на атрыманне льготнай пенсіі, 1986 год?**

***Н. І. Баўкуновіч,** Капыльскі р-н.*

— Як жанчына, якая нарадзіла пяць і больш дзяцей і выхавала іх да 16-гадовага ўзросту, Вы сапраўды маеце права выйсці на пенсію незалежна ад свайго ўзросту пры стажы працы ў калгасах, саўгасах і іншых прадпрыемствах сельскай гаспадаркі ў вытворчасці сельгаспрадукцыі не менш 10 гадоў без заліку ў гэты стаж часу догляду за дзецьмі. Паводле заканадаўства, калі член калгаса не выканаў усталяванага мінімуму працоўнага ўдзелу ў грамадскай гаспадарцы, то яго праца пасля 1965 года залічваецца ў стаж для прызначэння пенсіі па фактычнай працягласці. Перыяд паміж звальненнем і прыёмам на працу (калі грамадзянін не знаходзіўся ў працоўных адносінах) у стаж работы не залічваецца.

**— Маці пяцярых дзяцей, летась малодшаму споўнілася 16 гадоў. Здаецца, згодна з законам, як работнік калгаса (працую заатэхнікам) я павінна была атрымаць права на датэрміновую сельскагаспадарчую пенсію. Чаму мне адмовілі ў гэтым праве?**

***В. В. Пінчук,** Барысаўскі р-н.*

— Хацелася б звярнуць Вашу ўвагу на адну ўмову закона: жанчына, якая нарадзіла пяцёра і больш дзяцей і выхавала іх да 16-гадовага ўзросту, павінна быць занята непасрэдна вытворчасцю сельгаспрадукцыі. У Пераліку работніц, непасрэдна занятых у вытворчасці сельгаспрадукцыі, вызначаных Мінсельгасхарчам, пасада заатэхніка не значыцца.

**— 20 гадоў (з 1973 па 1993 г.) адпрацаваў у паўночных раёнах Іркуцкай вобласці. У 2000 годзе мне споўніцца 55 гадоў. Ці буду я мець права на прызначэнне льготнай пенсіі ў Беларусі?**

***М. І. Янучык,** г. Мінск.*

— Калі Вы да 1 студзеня 1993 года адпрацавалі не менш як 15 каляндарных гадоў у раёнах Крайняй Поўначы або не менш як 20 каляндарных гадоў у мясцовасцях, прыраўнаваных да раёнаў Крайняй Поўначы, то права на льготную пенсію ў Вас будзе.

**— У свой час адпрацаваў 3 гады ў Цюменскай вобласці — у мясцовасцях, прыраўнаваных да Крайняй Поўначы. Здаецца, некалі год такой працы залічвалі ў стаж за паўтара года. Чаму ж мне час працы ў Цюменскай вобласці залічылі па фактычнай працягласці?**

***Л. Л. Кожух,** Шаркаўшчынскі р-н.*

— Заканадаўства, якое дзейнічае на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь з 1 студзеня 1992 года, не ўтрымлівае нормаў, якія прадугледжваюць ільготнае вылічэнне працоўнага стажу работы ў раёнах Крайняй Поўначы і ў прыраўнаваных да іх мясцовасцях. Асобам, якія выйшлі на пенсію пасля гэтай даты, праца ў такіх раёнах і мясцовасцях залічваецца па фактычнай працягласці — з разліку адзін год працы за адзін год стажу.

**— Ці належыць пенсіянеру, інваліду І групы выплата кампенсацыі на транспартныя выдаткі? І яшчэ. Як можна атрымаць інвалідную каляску?**

***А. М. Бухоўка,** г. Скідаль.*

— Палажэннем «Аб парадку забеспячэння інвалідаў транспартнымі сродкамі і кампенсацыі выдаткаў на іх транспартнае абслугоўванне», якое было зацверджана пастановай Савета Міністраў 22 чэрвеня 1998 года, прадугледжана выплата штогадовай грашовай кампенсацыі на транспартнае абслугоўванне тым інвалідам І групы, якія па медыцынскіх паказчыках маюць права на забеспячэнне аўтамабілем з ручным кіраваннем бясплатна або на льготных умовах. Выплата гэтай кампенсацыі робіцца раённым аддзелам сацыяльнай абароны па месцы сталага пражывання інваліда.

Што да пытання наконт інваліднай каляскі, то спачатку Вам трэба атрымаць заключэнне медыка-рэабілітацыйнай экспертнай камісіі (МРЭК) аб неабходнасці забеспячэння Вас гэтым сродкам перамяшчэння. Калі Вы прадставіце такое заключэнне ў аддзел сацыяльнай абароны па месцы сталага пражывання, то інваліднай каляскай Вас забяспечаць бясплатна.

**Матэрыялы «прамой лініі» падрыхтаваў Сяргей ГРЫБ.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

***(Заканчэнне будзе).***

*Намеснік Генеральнага пракурора Міхаіл СНЯГІР:*

# «МЫ НЕ ТОЛЬКІ ПАВАЖАЕМ, ШАНУЕМ, АЛЕ І АКТЫЎНА АБАРАНЯЕМ ПАЖЫЛЫХ ЛЮДЗЕЙ»

***Напэўна, ні адна катэгорыя насельніцтва Беларусі сёння не знаходзіцца ў такім цяжкім становішчы, як пенсіянеры. Хоць і многім маладым людзям зараз таксама нялёгка. Аднак менавіта нашы пажылыя суграмадзяне, што жывуць на адносна невялікую пенсію, апошнім часам сталі ахвярамі эканамічнага крызісу. Да таго ж старых, нямоглых людзей не абмінула злачынная навала, яны горш за іншых пераносяць шматлікія бытавыя праблемы, хваравіта ўспрымаюць і найчасцей пакутуюць ад чыноўніцкай валакіты, і наогул чалавечай чэрствасці. Гэта выдатна разумеюць у Пракуратуры краіны і не пакідаюць па-за ўвагай праблемы пажылых людзей. У прыватнасці, нядаўна органамі пракуратуры была праведзена праверка выканання заканадаўства аб абароне пажылых людзей ад замахаў на іх жыццё, здароўе, законныя правы і інтарэсы.***

***Аб выніках гэтай праверкі карэспандэнт «Звязды» папрасіў расказаць намесніка Генеральнага пракурора Беларусі Міхаіла СНЕГІРА.***

**— Міхаіл Валянцінавіч, чаму пракуратура скіравала сваю ўвагу менавіта на праблемы пажылых людзей? На першы погляд, асаблівых падстаў для занепакоенасці не павінна быць. Напрыклад, пенсія ў Беларусі выплачваецца без затрымкі, пра што пажылыя людзі з некаторых іншых краін СНД могуць толькі марыць.**

— Сапраўды, кіраўніцтва нашай дзяржавы клапоціцца аб пажылых людзях. У Беларусі рэалізуецца некалькі дзяржаўных праграм па вырашэнню праблем пенсіянераў.

Дарэчы, у нашай краіне больш за 2,5 мільёна пенсіянераў, з якіх 2,2 мільёна пажылыя людзі (мужчыны ва ўзросце старэй за 60 гадоў і жанчыны — старэй за 55 гадоў). Прычым штогод колькасць пенсіянераў павялічваецца. Напрыклад, у параўнанні з 1992 годам сёлета колькасць асоб пенсійнага ўзросту павялічылася на 113 тысяч чалавек. Нягледзячы на тое, што запазычанасць суб'ектаў гаспадарання па пералічэнню ўзносаў у пенсійны фонд складае 50 працэнтаў месячнай сумы расходаў на выплату пенсій, прэзідэнт і ўрад знаходзяць выйсце з гэтай складанай сітуацыі. Ужо на працягу апошніх двух гадоў пенсіі ў Беларусі выплачваюцца без затрымак. Іншая справа, што памер гэтых пенсій не такі ўжо вялікі. Сёлета абсалютная большасць пажылых людзей атрымлівала пенсіі у памеры ніжэй за мінімальны спажывецкі бюджэт пенсіянера. На гэта ёсць аб'ектыўныя прычыны эканамічнага паходжання. Вядома, узровень жыцця пенсіянераў, як і астатніх грамадзян нашай краіны, павысіцца толькі тады, калі мы пераадолеем эканамічныя цяжкасці.

Разам з тым, як сведчаць пракурорскія праверкі, ёсць шмат недапрацовак па пенсійнаму забеспячэнню грамадзян і з боку мясцовых органаў сацыяльнай абароны. У прыватнасці, нядбайнымі чыноўнікамі дапускаліся парушэнні пенсійнага заканадаўства пры вызначэнні права на датэрміновую пенсію па ўзросту, налічэнню стажу, фактычнага заробку, што ў канчатковым выніку істотна ўплывала на памер пенсіі.

**— З чыноўніцкай некампетэнтнасцю, абыякавасцю, хамствам, урэшце рэшт, апошнім часам, мяркуючы па тэлефонных званках і пісьмах у «Звязду», пенсіянерам даводзіцца сутыкацца не толькі ва ўладных структурах, але і ў медыцынскіх установах. Ці займалася гэтай праблемай пракуратура?**

— Так, падчас праверкі было ўстаноўлена, што медыцынскі персанал некаторых лячэбных стацыянарных устаноў і службы «хуткай дапамогі» не заўсёды ўважліва адносіцца да пажылых пацыентаў. Працягвае павялічвацца колькасць скаргаў старых людзей на нездавальняючае забеспячэнне лекамі, а таксама на парушэнне медыцынскай этыкі з боку медперсаналу.

Факты абыякавых адносінаў да пенсіянераў выяўлены і ў сістэме канцэрна «Белпалівагаз», куды пажылыя людзі таксама вельмі часта звяртаюцца са скаргамі і за рознымі кансультацыямі.

**— У Беларусі, як вядома, існуе цэлая сетка сацыяльных устаноў. Як там жывецца пажылым людзям?**

— У сістэме Міністэрства сацыяльнай абароны зараз функцыянуюць 74 сацыяльныя ўстановы. Трэба адзначыць, што ўмовы пражывання ў многіх з іх далёка не камфартабельныя. Напрыклад, 22 такія ўстановы месцяцца ў прыстасаваных будынках, 4 — не маюць цэнтральнага ацяплення, у 3 дамах-інтэрнатах адсутнічае цэнтральнае водазабеспячэнне, у 6 — няма каналізацыі.

Апроч бытавых цяжкасцяў у некаторых дамах-інтэрнатах зараз складаная крымінагенная сітуацыя.

Справа ў тым, што ў гэтых сацыяльных установах зараз пражывае значная колькасць былых асуджаных. Толькі ў Мінскім гарадскім тэрытарыяльным цэнтры абслугоўвання пенсіянераў налічваюцца 24 асобы з крымінальнай біяграфіяй. За мінулы і гэты год імі ўчынена 14 праваапарушэнняў. Праваахоўнымі органамі ўзбуджаны крымінальныя справы, у тым ліку за наўмыснае забойства, пагрозу забойства, нанясенне цяжкіх цялесных пашкоджанняў, супраць асоб з крымінальным мінулым, якія пражываюць у дамах-інтэрнатах для састарэлых.

Згодна з пастановай урада Беларусі, для такіх «старых разбойнікаў» мяркуецца стварыць у кожнай вобласці спецыяльныя дамы-інтэрнаты. Падобныя «спецінтэрнаты», як адзначаецца ў пастанове Савета Міністраў, павінны з'явіцца ўжо на пачатку наступнага года, аднак у некаторых абласцях з-за адсутнасці фінансавых сродкаў да гэтага часу нават не пачыналі будаўніцтва.

Дарэчы, што датычыць бяспекі пажылых людзей, то яны даволі часта становяцца ахвярамі злачынцаў. Так, напрыклад, за апошнія паўтара гада было ўзбуджана больш за 8 тысяч крымінальных спраў па фактах злачынства супраць пажылых людзей. Судамі краіны за гэты час разгледжаны 5632 крымінальныя справы аб злачынствах, учыненых супраць больш як 7 тысяч пенсіянераў. Прычым за памянёны перыяд было разгледжана 4316 крымінальных спраў па фактах крадзяжоў асабістай маёмасці, разбояў, грабяжоў, махлярства і вымагання грошай у пажылых людзей, 810 крымінальных спраў — па фактах прычынення цяжкіх цялесных пашкоджанняў і згвалтаванняў пажылых людзей, 183 крымінальныя справы — па фактах забойства.

**— Міхаіл Валянцінавіч, апроч выяўлення негатыўных з'яў і аналізу становішча пенсіянераў, а таксама вывучэння сітуацыі ў сацыяльных установах, якую практычную дапамогу аказвае пракуратура канкрэтным пажылым людзям?**

— Органы пракуратуры вельмі ўважліва ставяцца да скаргаў пажылых людзей на неправамерныя дзеянні службовых асоб. Мы не толькі паважаем, шануем, але і актыўна абараняем пажылых людзей. Так, напрыклад, за мінулы год і I паўгоддзе гэтага года па ісках пажылых людзей аб абароне сваіх правоў і інтарэсаў судамі было разгледжана 3597 грамадзянскіх спраў, з якіх 2629 — задаволены. Ва ўсіх выпадках суды выносілі свае рашэнні згодна з заключэннямі пракурораў.

Мы і надалей будзем актыўна сачыць за тым, як выконваецца заканадаўства, накіраванае на абарону інтарэсаў і правоў пажылых людзей.

Дарэчы, не толькі ў Беларусі, але і ва ўсім цывілізаваным свеце праблемы абароны пенсіянераў з'яўляюцца прыярытэтнымі. Нагадаю, што наступны, 1999 год па рашэнню Генеральнай Асамблеі ААН аб'яўлены Міжнародным годам пажылых людзей.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

# МІНДЗЯРЖМАЁМАСЦЬ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ЗАПРАШАЕ ФІЗІЧНЫХ І ЮРЫДЫЧНЫХ АСОБ ПРЫНЯЦЬ УДЗЕЛ У АЎКЦЫЁНЕ ПА ПРОДАЖЫ АКЦЫЙ АКЦЫЯНЕРНЫХ ТАВАРЫСТВАЎ ЗА ГРАШОВЫЯ СРОДКІ, ЯКІЯ НАЛЕЖАЦЬ ДЗЯРЖАВЕ

***Аўкцыён адбудзецца 22 снежня 1998 г. у 10.00 па адрасу: г. Мінск, вул. Мяснікова, 39, актавая зала.***

Заявы на ўдзел у аўкцыёне прымаюцца да 11.00 21 снежня 1998 г. па адрасу: г. Мінск, вул. Мяснікова, 39, каб. 550, Камітэт па распараджэнню акцыямі пры Міндзяржмаёмасці.

**Для ўдзелу ў аўкцыёне прадстаўляюцца:**

заява на ўдзел у аўкцыёне па ўстаноўленай форме;

копіі плацежных даручэнняў, якія пацвярджаюць пералічэнне на разліковы рахунак Камітэта па распараджэнню акцыямі пры Міндзяржмаёмасці № 3622000001076 у АСБ «Беларусбанк», код 795:

*спецыяльнага збору за падачу заяў у памеры 4 мінімальных заработных плат;*

*платы за рэгістрацыю ў памеры 1/4 мінімальнай заработнай платы;*

*гарантыйнага збору ў памеры 10 працэнтаў ад пачатковай цаны заяўленага лота, які мае найбольшы кошт;*

даведка фінансавых органаў аб прадастаўленні дэкларацый аб аб'ёмах і крыніцах інвестыцый, якія накіроўваюцца на набыццё акцый на аўкцыёне;

копіі ўстаноўчых дакументаў, завераныя натарыяльна або органам, які ажыццяўляе рэгістрацыю.

Пераможцы аўкцыёну вяртаюць фактычныя затраты на яго падрыхтоўку і правядзенне згодна з зацверджаным каштарысам.

***Атрымаць больш падрабязную інфармацыю аб акцыянерных таварыствах, азнаёміцца з праспектамі эмісій і балансамі па стану на 1 студзеня 1998 г. можна па адрасу: г. Мінск, вул. Мяснікова, 39, каб. 812.***

**Кантактныя тэлефоны: 276-99-05; 276-99-45.**

| № | Наименование ОАО | Уставный фонд шт. акций | Номинальная ст-сть акции, руб. | Цена одной акции, руб. | Удельный вес пакета в УФ (%) | Кол-во выставляемых на аукцион акций, шт/руб | Количество акций по лотам / начальная цена, шт / рублей | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | 1 лот | 2 лот | 3 лот | 4 лот | 5 лот | 6 лот | 7 лот | 8 лот | 9 лот | 10 лот | 11 лот | 12 лот | 13 лот | 14 лот | 15 лот |
| | **Брестская обл.** | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 1 | Барановичская обувная фабрика | 10 355 | 490000 | 2059000 | 9,8 | 1010/ 2079590000 | 10/ 20590000 | 10/ 20590000 | 20/ 41180000 | 20/ 41180000 | 50/ 102950000 | 80/ 164720000 | 100/ 205900000 | 100/ 205900000 | 100/ 205900000 | 100/ 205900000 | 100/ 205900000 | 100/ 205900000 | 100/ 205900000 | 120/ 247080000 | |
| | **Гродненская обл.** | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 2 | Гродноавтосервис | 10 017 | 206000 | 1256000 | 8,8 | 879/ 1104024000 | 29/ 36424000 | 50/ 6280000 | 50/ 62800000 | 50/ 62800000 | 50/ 62800000 | 50/ 62800000 | 50/ 62800000 | 50/ 62800000 | 50/ 62800000 | 50/ 62800000 | 50/ 62800000 | 100/ 125600000 | 100/ 125600000 | 150/ 188400000 | |
| 3 | Гродноинтертранс | 117 290 | 10000 | 774000 | 1,5 | 1747/ 1352178000 | 20/ 15480000 | 27/ 2089800 | 30/ 23220000 | 30/ 23220000 | 40/ 30960000 | 50/ 38700000 | 50/ 38700000 | 50/ 38700000 | 50/ 38700000 | 50/ 38700000 | 200/ 154800000 | 300/ 232200000 | 400/ 309600000 | 450/ 348300000 | |
| 4 | Станция технического обслуживания № 1, г. Лида | 5 437 | 10000 | 586000 | 4,6 | 248/ 145328000 | 18/ 10548000 | 20/ 11720000 | 30/ 17580000 | 30/ 17580000 | 30/ 17580000 | 30/ 17580000 | 30/ 17580000 | 30/ 17580000 | 30/ 17580000 | | | | | | |
| 5 | Белкофе, г. Ошмяны | 173 186 | 35000 | 109000 | 7,6 | 13198/ 1438582000 | 98/ 10682000 | 100/ 10900000 | 150/ 16350000 | 150/ 16350000 | 200/ 21800000 | 300/ 32700000 | 400/ 43600000 | 500/ 54500000 | 1000/ 109000000 | 2000/ 218000000 | 2000/ 218000000 | 2000/ 218000000 | 2000/ 218000000 | 2300/ 250700000 | |
| | **г. Минск** | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 6 | Республиканский дом моделей обуви,. г. Минск | 122 240 | 1000 | 87000 | 1,5 | 1790/ 155730000 | 40/ 3480000 | 50/ 4350000 | 50/ 4350000 | 100/ 8700000 | 100/ 8700000 | 100/ 8700000 | 100/ 8700000 | 100/ 8700000 | 200/ 17400000 | 200/ 17400000 | 200/ 17400000 | 250/ 21750000 | 300/ 26100000 | | |
| 7 | СПМК-81, г. Минск | 36 354 | 5000 | 371000 | 0,9 | 337/ 125027000 | 17/ 6307000 | 20/ 7420000 | 25/ 9275000 | 25/ 9275000 | 25/ 9275000 | 25/ 9275000 | 25/ 9275000 | 25/ 9275000 | 25/ 9275000 | 25/ 9275000 | 50/ 18550000 | 50/ 18550000 | | | |
| 8 | Минсктелекомстрой | 143 007 | 35000 | 253000 | 6,6 | 9473/ 2396669000 | 23/ 5819000 | 25/ 6325000 | 25/ 6325000 | 50/ 12650000 | 50/ 12650000 | 100/ 25300000 | 200/ 50600000 | 300/ 75900000 | 700/ 177100000 | 1000/ 253000000 | 1000/ 253000000 | 1500/ 379500000 | 1500/ 379500000 | 1500/ 379500000 | 1500/ 379500000 |
| 9 | Белспецпроект, г. Минск | 18 586 | 70000 | 165000 | 7,4 | 1381/ 227865000 | 21/ 3465000 | 40/ 6600000 | 40/ 6600000 | 50/ 8250000 | 50/ 8250000 | 100/ 16500000 | 100/ 16500000 | 100/ 16500000 | 100/ 16500000 | 100/ 16500000 | 100/ 16500000 | 100/ 16500000 | 100/ 16500000 | 180/ 29700000 | 200/ 33000000 |
| 10 | Подъем, г. Минск | 10 813 | 140000 | 646000 | 5,1 | 555/ 358530000 | 20/ 12920000 | 25/ 16150000 | 25/ 16150000 | 25/ 16150000 | 25/ 16150000 | 25/ 16150000 | 30/ 19380000 | 30/ 19380000 | 50/ 32300000 | 50/ 32300000 | 50/ 32300000 | 50/ 32300000 | 50/ 32300000 | 50/ 32300000 | 50/ 32300000 |
| 11 | Дренаж, г. Минск | 4 966 | 105000 | 545000 | 9,8 | 486/ 264870000 | 16/ 8720000 | 20/ 10900000 | 20/ 10900000 | 20/ 10900000 | 20/ 10900000 | 25/ 13625000 | 25/ 13625000 | 25/ 13625000 | 25/ 13625000 | 40/ 21800000 | 50/ 27250000 | 50/ 27250000 | 50/ 27250000 | 100/ 54500000 | |
| | **Минская обл.** | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 12 | Специализированное строительно-монтажное предприятие № 128, г. Молодечно | 28 571 | 7000 | 78000 | 1,7 | 490/ 38220000 | 20/ 1560000 | 20/ 1560000 | 20/ 1560000 | 30/ 2340000 | 50/ 3900000 | 50/ 3900000 | 50/ 3900000 | 50/ 3900000 | 50/ 3900000 | 50/ 3900000 | 50/ 3900000 | 50/ 3900000 | | | |
| 13 | ПМК-188, г. Воложин | 56 184 | 10000 | 372000 | 0,1 | 82/ 30504000 | 10/ 3720000 | 10/ 3720000 | 10/ 3720000 | 10/ 3720000 | 12/ 4464000 | 15/ 5580000 | 15/ 5580000 | | | | | | | | |
| 14 | Минскводстрой | 3 920 | 700000 | 5570000 | 10,0 | 392/ 2183440000 | 12/ 66840000 | 20/ 11140000 | 20/ 111400000 | 20/ 111400000 | 20/ 111400000 | 25/ 139250000 | 25/ 139250000 | 25/ 139250000 | 25/ 139250000 | 25/ 139250000 | 25/ 139250000 | 25/ 139250000 | 25/ 139250000 | 50/ 278500000 | 50/ 278500000 |
| 15 | ПМК-2, г. Заславль | 8 011 | 105000 | 718000 | 5,9 | 469/ 336742000 | 10/ 7180000 | 19/ 13642000 | 20/ 14360000 | 20/ 14360000 | 25/ 17950000 | 25/ 17950000 | 25/ 17950000 | 25/ 17950000 | 25/ 17950000 | 25/ 17950000 | 50/ 35900000 | 50/ 35900000 | 50/ 35900000 | 50/ 35900000 | 50/ 35900000 |
| 16 | ПМК-32, г. Молодечно | 5 690 | 350000 | 4168000 | 10,0 | 569/ 2371592000 | 10/ 41680000 | 19/ 79192000 | 20/ 83360000 | 20/ 83360000 | 25/ 104200000 | 25/ 10420000 | 50/ 208400000 | 50/ 208400000 | 50/ 208400000 | 50/ 208400000 | 50/ 208400000 | 50/ 208400000 | 50/ 208400000 | 50/ 208400000 | 50/ 208400000 |
| 17 | Слуцкий сахарорафинадный завод | 336 059 | 350000 | 1840000 | 0,1 | 128/ 235520000 | 10/ 18400000 | 10/ 18400000 | 10/ 18400000 | 10/ 18400000 | 10/ 18400000 | 10/ 18400000 | 10/ 18400000 | 10/ 18400000 | 10/ 18400000 | 10/ 18400000 | 10/ 18400000 | 18/ 33120000 | | | |

# ЧЫТАЧЫ «ЗВЯЗДЫ» ПРА «ЗВЯЗДУ»

**«Паважаная рэдакцыя!» — так звычайна пачынаюцца пісьмы, адрасаваныя ў газету. А нам, каму выпадае гонар першымі з журналістаў чытаць вашы радкі, трэба прызнацца, што вашыя лісты нікога з нас не пакідаюць раўнадушнымі. Вы пісалі, магчыма, і не заўсёды роўна, але шчыра, неабыякава. Пісалі па загаду сэрца і сумлення. Многія з іх былі апублікаваны, але і тыя чытацкія радкі, якія па тых ці іншых прычынах не дайшлі да паласы, зрабілі сваю справу: яны дапамаглі рэдакцыі ўбачыць і паставіць праблемы, прадоўжыць і развіць дыскусіі, вызначыць болевыя кропкі, змагацца са злобай, сцвярджаць дабро. Не кажучы ўжо пра тое, што многія пісьмы дакладна падказвалі канкрэтныя тэмы. Для кожнага журналіста «Звязды» чытацкае пісьмо — гэта жывая сувязь з тымі, для каго мы працуем і жывём, пра каго думаем. Яно — ацэнка нашай працы, нашых удач, а магчыма, і паражэнняў, прадмет роздуму і трывог, радасці і натхнення. Асноўны творчы прынцып «Звязды» вядомы — запыты, праблемы, якія хвалююць людзей.**

**Мы імкнёмся пашыраць асабістыя кантакты з чытачамі. З гэтай мэтай праводзім «выязныя прыёмныя» «Звязды» разам з Федэрацыяй прафсаюзаў і рэспубліканскімі міністэрствамі, уручаем прызы пераможцам латарэі па выніках падпіскі за квартал, уважліва выслухоўваем людзей, калі яны заходзяць у рэдакцыю, каб паведаць пра набалелае, калі выязджаем у камандзіроўкі... І заўсёды чуем шмат выказванняў, у якіх чытачы вельмі скрупулёзна аналізуюць нашу газету. Іх аўтары, разважаючы аб змесце асобных матэрыялаў, агульнай накіраванасці «Звязды», падыходзяць да гэтага з высокай меркай патрабавальнасці, якая дыктуецца напружаным ходам жыцця, складанасцямі часу. Мы ўдзячныя ўсім, хто з разуменнем ставіцца і да тых праблем, з якімі сутыкаецца апошнім часам беларуская прэса, у тым ліку і «Звязда». Не можа быць так, каб журналістам, якія жывуць трывогамі і надзеямі людзей, было добра, а чытачам — дрэнна. Мы ў адной лодцы, назва якой — Беларусь, таму павінны разам, не разгойдваючы яе, веславаць далей па шляху ўдасканалення эканомікі, а значыць, паляпшэння дабрабыту кожнага з нас.**

**Сёння, калі ідзе падпіска на «Звязду», а гэта заўсёды вялікая нарада з чытачамі, у рэдакцыю прыйшло шмат пісьмаў, у якіх яны выказваюць свае адносіны да газеты. Мы рэдка гэта робім, але сёння вырашылі ўсё ж змясціць некалькі такіх лістоў.**



«Добры дзень, спадарыня «Звязда»!

Асмельваюся нагадаць радасную падзею ў маім жыцці. Хутка споўніцца 50 (пяцьдзесят!) гадоў, як я сябрую з табой, паважаная «Звязда». Пасля дэмабілізацыі ў лістападзе 1945 года я выпісваў іншыя выданні, а ў 1949 годзе зрабіў выбар (і надзвычай удалы): стаў выпісваць «Звязду», што раблю да гэтага часу.

З нецярпеннем чакаю твой наступны нумар, бо спадзяюся сустрэць у ім самую праўдзівую інфармацыю. Іншыя выданні стараюцца неяк ухіліцца, абысці рэзкія выказванні, ты ж ацэньваеш падзеі аб'ектыўна і па-свойму цікава. У цябе сакавітая сучасная літаратурная беларуская мова. Падабаюцца матэрыялы культурнага жыцця: літаратуры, мастацтва, дасціпны гумар. Прававая адукацыя нашага насельніцтва, мякка кажучы, не на вышыні, і ты ў значнай меры дапамагаеш зарыентавацца ў гэтых складанасцях.

...Толькі што паштальёнка прынесла свежы нумар. Быццам зайшоў у хату вельмі знаёмы і цікавы субяседнік. Адразу становіцца цяплей на душы ў маёй адзіноце...

Вялікі дзякуй, нязменная сяброўка і дарадчыца. Усяго найлепшага табе, вялікіх поспехаў!

**Іван ЗАКОННІКАЎ, ветэран вайны і працы.**
***Вёска Глыбачка Ушацкага раёна».***



«Вось і зноў мы прадаўжаем падпіску на нашу «Звязду». Ды як жа яе не выпісаць, калі яна аператыўна і ўсебакова інфармуе пра ўсё, што адбываецца ў роднай Беларусі? «Звязда» — самая змястоўная, сапраўды нацыянальная па свайму зместу газета. Палітыка, эканоміка, культура, жыццё народа, яго гісторыя і мова — усяму адводзіцца належнае месца. І хоць апошняя сёння заціснута чыноўнікамі, але «Звязда» дае слова людзям, якія выступаюць у абарону роднай мовы. Газета нам дапамагае жыць, робіць наша жыццё цікавейшым і прыгажэйшым. І хоць яно становіцца ўсё больш цяжкім, але мы, падпісчыкі, застаёмся са сваёй «Звяздой», будзем ёй вернымі і надалей.

**Яўген БЕКІШ,**
***в. Горка Дзятлаўскага раёна».***



«Вырашыў застацца са «Звяздой», хоць сёння, асабліва пенсіянерам, не так лёгка знайсці паўтары сотні «зайчыкаў». Праўда, з іншага боку, гэта дробязь — усяго дзесяць боханаў хлеба (у нас ён каштуе па 15 тыс. 500 рублёў — танней не бывае).

«Звязду» выпісваю і чытаю шмат гадоў. Больш таго стараюся прапагандаваць, агітаваць на падпіску перш за ўсё ў вуснай форме, у гутарках з людзьмі. І ўсё ж, чаму я і мая сям'я са «Звяздой» і на наступны год?

Па-першае, гэта беларускамоўнае выданне. А я люблю родную Беларусь, яе жыхароў, прыроду і, безумоўна, мову. З іншага боку, «Звязда», як разумная цешча і свякроў, не лае, не брэша, не кусае, не крывіць душою і не разводзіць сваркі. Гэта цвярозае, тактоўнае выданне. Для ўсіх: і дарослых, і нават дзяцей, жанчын і мужчын, кіраўнікоў і простых «рабацяг», гараджан і жыхароў вёсак, здаровых і хворых, аматараў гумару і шукальнікаў шчасця. Тэматыка матэрыялаў, як і наша жыццё, вельмі разнастайная. Да таго ж у «Звяздзе» падабраны букет здольных журналістаў, якіх я чытаю з вялікім задавальненнем.

Безумоўна, усім дагадзіць цяжка. Я, напрыклад, не люблю і не чытаю гараскопаў. І калі б быў рэдактарам і меў магчымасць (разумею, што гэта не пад сілу) зменшыў бы колькасць афіцыёзу, аднавіў бы старонку пісьмаў чытачоў.

**З павагай Іван ГОВАР, ветэран педагагічнай працы, настаўнік вышэйшай катэгорыі.**
***г. п. Іўе».***



«Мы на працягу многіх гадоў выпісваем сваю любімую газету. Вось і цяпер афармілі паўгадавую падпіску (1999 г.) на «Звязду». Так будзе і далей. Помню, раней надта не любілі выпісваць газеты на беларускай мове. На «Звязду» ў той час падпіска ішла туга. Цяпер «Звязду» асабіста я прапагандую, але многія выпісваюць яе і без агітацыі. Яна агітуе сама за сябе. Газета стала цікавая, змястоўная, дае разнастайныя матэрыялы, шмат інфармацыі, змяшчаюцца праблемныя пытанні аб рабоце прамысловасці, сельскай гаспадаркі, гандлю, навуковых устаноў і г.д. Часта з'яўляюцца і літаратурныя творы. Газета мае свой асабісты почырк, погляд. Яна не падначаленая газета, не гаворыць толькі тое, што ў нас у рэспубліцы ўсё добра, востра крытыкуе недахопы, раіць, як з іх выйсці, адказвае на шматлікія пытанні жыхароў рэспублікі. «Звязду» мы ніколі на іншую газету не прамяняем.

**Аляксандр і Зінаіда ЛАЗОЎСКІЯ,**
***г. Навагрудак».***



«Пасля развалу СССР з'явілася шмат новых газет, але я не здрадзіла «Звяздзе». Чаму? Таму, што гэта сапраўдная беларуская газета, якая аб'ектыўна адлюстроўвае ўсе бакі нашага жыцця, імкнецца дапамагчы сваім чытачам у вырашэнні розных праблем, асабліва цяпер, калі не ведаеш, дзе знайсці праўду. Вы не разменьваецеся на дробныя сенсацыі. Хочацца, каб вы больш увагі звярталі на станоўчае ў нашай краіне, знаходзілі добрых людзей — працаўнікоў вёскі. Правільна, што паказваеце вялікія заводы, добрыя калектывы, якія ўсё робяць, каб выжыць у гэтай сітуацыі. З задавальненнем прачытала і пра наш Рагачоўскі малочна-кансервавы камбінат. Дзякуй за ўсё. Вы робіце неабходную ўсім людзям справу.

**Соф'я МАЛЮКОВА,**
***в. Лучын Рагачоўскага раёна».***



«Падпісваўся я на вашу газету штогод і ў савецкія часы, працягваю яе чытаць і зараз. Змяняўся час, змяняўся і змест газеты. Не буду на гэтым доўга затрымлівацца, толькі хачу адзначыць, што падпісваюся на «Звязду» таму, што атрымліваю большую частку патрэбнай мне інфармацыі. Мне падабаецца «Звязда» за цікавыя публікацыі, за яе смелую грамадзянскую пазіцыю. Пастаянна падпісваюся на «Звязду» яшчэ і за тое, што яна на беларускай мове.

**К. ХАРЫТОНАЎ,**
***в. Сакаўшчына Валожынскага раёна».***

**Дзякуй аўтарам за крытыку, прапановы і падтрымку, у тым ліку Яніне Ерш з вёскі Масты Правыя Мастоўскага раёна, Ніне Дзенісені з вёскі Дзяніскавічы Івацэвіцкага раёна, Марыі Коваль з в. Хорастава Салігорскага раёна, Мікалаю Стасевічу з в. Грабава Зэльвенскага раёна і ўсім, хто даслаў нам лісты з пажаданнямі. Яны будуць выкарыстаны ў далейшай нашай працы. Спадзяемся, што кожную раніцу «Звязда» будзе спяшацца да вас, каб данесці гарачае пульсаванне жыцця краіны. Наперадзе вялікая і адказная праца. Будзем разам з вамі, наш чытач, рабіць нашу «Звязду». Мы шчыра хочам бачыць вас пастаяннымі субяседнікамі.**

**Таму напамінаем, што 15 снежня заканчваецца падпіска на І паўгоддзе 1999 года.**

**Уладзімір АНДРЫЕВІЧ.**

***«ЗВЯЗДА»-99***

# ПАДПІШЫЦЕСЯ СЁННЯ!

**Мінчане, акрамя афармлення падпіскі на прадпрыемствах РА «Белпошта», змогуць гэта зрабіць і ў гандлёвых кропках «Белсаюздруку», але ў такім разе ім самім прыйдзецца забіраць нашу газету ў кіёску. Таму кошт падпіскі на 1 месяц пры такой яе форме будзе складаць:**

**для індывідуальных падпісчыкаў** — 39 тысяч рублёў (індэкс 63850);

**для арганізацый** — 140 тысяч рублёў (індэкс 63239);

**на 3 месяцы** — 117 тысяч і 420 тысяч рублёў адпаведна.

**Паведамляем адрасы гандлёвых кропак, якія прымаюць падпіску на «Звязду» да запатрабавання:**

**Кастрычніцкі пункт падпіскі** — вул. Жукоўскага, 5, корп. 1

**Партызанскі пункт падпіскі** — вул. А. Кашавога, 8

**Першамайскі пункт падпіскі** — пр-т Ф. Скарыны, 113

**Фрунзенскі пункт падпіскі** — вул. Раманаўская слабада, 9

**Магазін № 1** — вул. Жукоўскага, 5
**Магазін № 2** — пр-т Ф. Скарыны, 44
**Магазін № 3** — пр-т Ф. Скарыны, 76
**Магазін № 4** — вул. Леніна, 15
**Магазін № 6** — вул. Філімонава, 1
**Магазін № 7** — вул. Я. Коласа, 69
**Магазін № 8** — вул. Сурганава, 40
**Магазін № 9** — пр-т Ракасоўскага, 140
**Магазін № 11** — пр-т Пушкіна, 77
**Магазін № 12** — вул. Кіжаватава, 80
**Магазін № 13** — вул. Каліноўскага, 82, корп. 2
**Магазін № 14** — вул. Валадарскага, 22
**Магазін № 15** — вул. Танкавая, 16
**Магазін № 16** — вул. В. Харужай, 24
**Магазін № 17** — вул. Някрасава, 35
**Магазін № 18** — метро «Плошча Перамогі»
**Магазін № 19** — пр-т Машэрава, 51, корп. 1
**Магазін № 20** — вул. Ясеніна, 16
**Магазін № 21** — станцыя метро «Пушкінская»
**Магазін № 23** — вул. Славінскага, 39
**Магазін № 24** — вул. Жылуновіча, 31
**Кіёск № 34** — г-ца «Мінск», пр-т Ф. Скарыны, 11
**Кіёск № 136** — станцыя метро «Я. Коласа», выхад да ін-та фізкультуры
**Кіёск № 187** — гасцініца «Беларусь», вул. Старажоўская, 15
**Кіёск № 262** — г-ца «Планета», пр-т Машэрава, 31
**Кіёск № 78** — г-ца «Юбілейная», пр-т Машэрава, 19

Да ўвагі мінчан: выдаваць падпіску могуць усе пункты падпіскі, магазіны, кіёскі «Саюздрук», якія знаходзяцца побач з работай ці жыллём чытача (па яго жаданню). **Падпіска прымаецца да 23 чысла перадпадпіснога месяца.**

**Тэл. для даведак: 227-88-41.**

**«Звязда» — гэта самая аператыўная і патрэбная для кожнай сям'і інфармацыя!**

**Заставайцеся з намі!**

***ПІСЬМО З КАМЕНТАРЫЕМ***

# «МЫ ТАКСАМА ХОЧАМ ЛЮДЗЬМІ ЗВАЦЦА...

Гэта пісьмо, як стала цяпер зразумела, не магло не паступіць у рэдакцыю. І зусім не выпадкова, што людзі, пакрыўджаныя лёсам, зараз крыўдуюць на тых службовых асоб, да якіх звярталіся безвынікова.

*«Паважаная рэдакцыя, — піша інвалід І групы, член праўлення дабрачыннага фонду падтрымкі прадпрымальнікаў-інвалідаў (ДФППІ) «Вілакдэс» Сяргей Пінчук, — ці цікавіліся вы, як і чым жывуць інваліды ў дамах інвалідаў? А мы хацелі б людзьмі звацца і адчуваць жыццё, як усе звычайныя людзі. Для гэтага сабраліся некалькі ініцыятыўных чалавек, упераменжку са здаровымі, і стварылі свой дабрачынны фонд. І мэта яго — аказваць дапамогу ў рэалізацыі магчымасцяў прадпрымальнікаў-інвалідаў, іх творчых, працоўных здольнасцяў, а таксама ў выяўленні гэтых здольнасцяў у дзяцей-інвалідаў.*

*Вядома ж, мы не вельмі разлічвалі, што зразумеюць, падтрымаюць нас у Мінгарвыканкаме, і ўсё ж папрасілі выдзеліць нам кватэру, ну хоць бы двухпакаёвую. Вядома ж, незадарма, а за невысокую плату: наш фонд пакуль існуе на ўзносы. А якія яны ў нас, інвалідаў, лёгка можна ўявіць. Такое жылое памяшканне нам патрэбна для таго, каб можна было наладзіць не афіцыйную сустрэчу за самаварам і пірагамі з капустай. Мы ж павінны сустракацца адзін з адным і са здаровымі, нармальнымі творчымі людзьмі. Ды і сярод нас нямала таленавітых, проста здольных людзей: ёсць і мастакі, і паэты, і народныя ўмельцы. Можа, у час такіх сустрэч і змаглі б чым-небудзь дапамагчы адзін аднаму.*

*Пісьмо са сваёй просьбай мы адправілі яшчэ ў маі, але з аддзела сацабароны Мінгарвыканкама ніякага канкрэтнага адказу нам так і не далі.*

*Дарагая рэдакцыя, дапамажыце, калі ласка, нам!»*

Гэта пісьмо-просьба было накіравана Мінгарвыканкаму. І вось праз месяц у афіцыйным адказе начальнік упраўлення сацыяльнай абароны У. Локіс паведамляе, што заява разгледжана.

І якія вынікі гэтага разгляду? Прама скажам, ніякіх. Указваецца толькі, што С. І. Пінчук, 1967 года нараджэння, інвалід І групы з дзяцінства, пражывае ў гарадскім тэрытарыяльным цэнтры сацыяльнага абслугоўвання пенсіянераў з 07.09.1988 г. на поўным дзяржаўным забеспячэнні. Займае асобны пакой. Перасоўваецца пры дапамозе крэсла-каляскі. Дыягназ — дзіцячы цэрабральны параліч.

Праўда, далей паведамляецца, што ў асабістай гутарцы старшыні фонду падтрымкі прадпрымальнікаў-інвалідаў «Вілакдэс» Р. Д. Патапавай растлумачана, што сістэма сацыяльнай абароны не мае жылога фонду і не можа задаволіць просьбу па выдзяленню ім кватэры. Рэкамендавана для паспяховага вырашэння статутных задач супрацоўнічаць з грамадскімі арганізацыямі інвалідаў (Беларускім таварыствам інвалідаў, Беларускім таварыствам глухіх, Беларускай асацыяцыяй дапамогі дзецям-інвалідам і да т. п.), клубам адпачынку інвалідаў ЦП БелТІ «Інвацэнтр», Мінскім гарадскім саюзам прадпрымальнікаў і г. д., якія ўжо маюць станоўчы вопыт у вырашэнні пытанняў працаўладкавання, арганізацыі рабочых месцаў для інвалідаў, а таксама ў правядзенні мерапрыемстваў творчай накіраванасці і адпачынку.

Цалкам згодны, што ўпраўленне сацыяльнай абароны, як прызнаецца У. Локіс, ніколі не валодала і не валодае жылым фондам. Натуральна, ніякага пакойчыка, а тым больш кватэры выдзеліць, каб і хацела, нікому, нават інваліду, не можа.

На наш погляд, гэта функцыя і кампетэнцыя Мінгарвыканкама, якому, дарэчы, і было накіравана пісьмо. Незразумела толькі чаму, як футбольны мяч, яго адпасавалі ўпраўленню сацабароны?

З горыччу і хваляваннем пры сустрэчы ў рэдакцыі пра нялёгкае становішча дабрачыннага фонду гаварыла яго старшыня Р. Патапава.

— Членамі нашага ДФППІ з'яўляюцца 200 чалавек, з іх палова інваліды, а таксама састарэлыя, нават бомжы, — сказала Раіса Дзмітрыеўна. — У нас ёсць свая архітэктурна-мастацкая майстэрня, створаны без ніякага памяшкання лячэбны цэнтр, два масажысты якога робяць працэдуры. Але ўсё гэта раскідана па кватэрах ва ўсім горадзе. Нават для нейкай канторкі і бухгалтэрыі арандуем жылыя пакойчыкі. І за ўсё гэта даводзіцца плаціць, а грошай няма, і ніхто нашым спонсарам быць не хоча.

Вось фонд і просіць выдзеліць яму ў арэнду хоць нейкую «двухпакаёўку». Вядома, куды больш выгадна здаць у арэнду ці нават прадаць памяшканне багатай фірме, чым інвалідам за невысокую плату з іх мізэрных узносаў.

Вось і выходзіць, як піша С. Пінчук, што нікому мы не патрэбны: ні Богу, ні людзям, ні дзяржаве.

І ўсё ж будзем спадзявацца, што Мінгарвыканкам праявіць да гэтых гаротных людзей, пакрыўджаных лёсам і жыццём, чалавечую чуласць і пойдзе ім насустрач. І зробіць гэта, як кажуць, не па службе, а па душы і ад душы.

**Падрыхтаваў да друку Іван БРАЛКА.**

г. Мінск.

# БУДЗЕ ЦЁПЛА!



Фота Васіля ЗЯНЬКО.

ЗВЯЗДА 11
15 снежня 1998 г.

# ААН МОЦНА КРЫТЫКУЮЦЬ ЗА МАРНАТРАЎСТВА, АЛЕ НЕ ЗАЎСЁДЫ СПРАВЯДЛІВА

**Адзін з галоўных папрокаў у адрас кіраўніцтва ААН з боку развітых багатых краін, асабліва ЗША, які быццам бы павінен ускосна апраўдваць іх нежаданне фінансава падтрымліваць арганізацыю, датычыцца бяздумнага марнатраўства грошай. Бадай, часцей за ўсё ў час падобных спрэчак узгадваецца правядзенне ў апошнія гады серыі буйных міжнародных канферэнцый ці так званых сустрэч на вышэйшым узроўні. Нядобразычліўцы назвалі іх «экстравагантнымі святамі балбатні».**

І сапраўды, колькасць удзельнікаў гэтых сустрэч, на якіх прысутнічалі прэзідэнты, прэм'ер-міністры, кіраўнікі парламентаў, уражвае. У Стамбул на канферэнцыю Хабітат-II (па праблемах жыцця чалавека ў гарадах) прыехала 30 тысяч чалавек, 47 тысяч — у Рыо-дэ-Жанейра на канферэнцыю па ахове навакольнага асяроддзя Зямлі, у Пекіне, дзе абмяркоўваліся шляхі паляпшэння становішча жанчын у свеце, сабралася ажно 50 тысяч!

На першы погляд, расходы на іх павінны быць велізарнымі. Але на самай справе — не. А ўлічваючы тое, што на парадак дня былі вынесены надзвычай злабадзённыя для чалавецтва пытанні, у маштабах планеты гэта былі зусім не вялікія грошы: у межах 1,7—3,4 млн. долараў ЗША. І толькі канферэнцыя ў Рыо-дэ-Жанейра абышлася ААН каля 10 млн. долараў ЗША. Ну хіба гэта значныя расходы для буйнейшай сусветнай арганізацыі, калі, напрыклад, сучасны самалёт-знішчальнік ці бамбардзіроўшчык каштуе куды больш.

У дадзеным выпадку ААН бярэ на сябе аплату работы перакладчыкаў і спецыялістаў, якія вядуць папярэднія перагаворы, удзельнічаюць у абслугоўванні канферэнцыі. А асноўныя затраты — на арэнду памяшканняў для канферэнцый, наём неабходнага мясцовага персаналу, ахову, праезд і пражыванне супрацоўнікаў ААН нясе краіна, якая прымае канферэнцыю.

Кожная краіна лічыць за вялікі гонар правесці ў сябе падобную канферэнцыю на вышэйшым узроўні. Па-першае, краіна ў рэшце рэшт акажацца ў вялікім матэрыяльным выйгрышы, бо даходы ад эксплуатацыі гасцініц, кафэ і рэстаранаў, транспарту, сродкаў сувязі і г. д. значна перакрываюць папярэднія расходы. Па-другое, сур'ёзна ўмацоўваецца імідж краіны на міжнароднай арэне. На канферэнцыю звычайна з'язджаюцца сотні журналістаў з усіх куткоў планеты і прыкладна тыдзень—паўтара сталіца дзяржавы знаходзіцца ў цэнтры сусветнай увагі.

Што датычыць карысці ад гэтых канферэнцый, то яна відавочная, хаця і праяўляецца не адразу. Бо маштабы ўзнімаемых праблем настолькі складаныя, што могуць быць вырашаны толькі агульнымі намаганнямі ўсіх краін. Так, пасля сусветнай сустрэчы на вышэйшым узроўні па сацыяльнаму развіццю ў 1995 годзе ў Капенгагене, куды прыбылі 117 кіраўнікоў дзяржаў, многія краіны заняліся канкрэтнай мэтанакіраванай работай па выкараненню беднасці. Канферэнцыя прыцягнула ўвагу да негатыўных наступстваў глабалізацыі эканомікі: павелічэння разрыву паміж багатымі і беднымі, «прабуксоўкі» механізмаў сацыяльнай абароны, росту няпэўнасці ў сферы працаўладкавання і г. д.

А пекінская сусветная канферэнцыя па становішчу жанчын прыняла пяцігадовы план па пашырэнню іх магчымасцяў у сацыяльнай, эканамічнай, палітычнай галінах, паляпшэнню іх здароўя, узроўню адукацыі, ахову іх сямейных і сексуальных правоў. Пасля канферэнцыі больш як 100 краін аб'явілі аб сваіх ініцыятывах па выкананню гэтага плана. У ЗША, напрыклад, распрацавалі сваю праграму па барацьбе з насіллем супраць жанчын і асігнавалі на яе рэалізацыю 1,6 млрд. долараў, стварылі прэзідэнцкі савет па становішчу жанчын.

Разам з тым моцная крытыка прымусіла ААН больш ашчадна ставіцца да выкарыстання бюджэтных сродкаў. У значную эканомію вылілася ліквідацыя дзесяткаў адміністрацыйных пасад, скарачэнне расходаў на сувязь, колькасць і працягласць канферэнцый, пасяджэнняў, нарад, выклікаў супрацоўнікаў у штаб-кватэру, змяншэнне аб'ёмаў дакументацыі. Толькі за кошт укаранення электроннай сістэмы пераводу грошай у Жэнеўскай штаб-кватэры ААН зэканомілі 350 тысяч долараў ЗША.

Але, нягледзячы на жорсткую, з усіх бакоў і на розных накірунках крытыку, рэйтынг папулярнасці ААН у свеце застаецца даволі высокім. Нават у Злучаных Штатах, вывучэнне грамадскай думкі паказала, што 64 працэнты амерыканцаў далі ёй у цэлым станоўчую ацэнку. А многія жыхары ЗША лічаць, што ААН працуе больш эфектыўна, чым іх уласны ўрад.

Гэта крытыка даволі доўга служыла падставай для кангрэса ЗША затрымліваць выплату ўзносаў ў рэгулярны бюджэт ААН, хаця прэзідэнт Б. Клінтан не бачыў сур'ёзных перашкод у пагашэнні запазычанасці, якая перасягнула мільярд долараў. Менавіта падобная пазіцыя ЗША паставіла ААН на мяжу банкруцтва. Пад яго знакам прайшоў амаль увесь 1998 год. І толькі нядаўна ЗША пералічылі ў ААНаўскі бюджэт 580 млн. долараў. У Нью-Йоркскай штаб-кватэры арганізацыі ўздыхнулі з палёгкай — фінансавы крызіс адступіў. Але ніхто не ведае, ці надоўга?

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

# БОН ГУБЛЯЕ СТАЛІЧНЫ СТАТУС, АЛЕ ЗАСТАЕЦЦА БУЙНЫМ ЦЭНТРАМ ГЕРМАНІІ

**Бон, невялікі горад на Рэйне, у зямлі Паўночны Рэйн- Вестфалія, пасля паваеннага падзелу Германіі на дзве дзяржавы часова быў абраны месцам знаходжання парламента і ўрада. Цяпер жа, пасля аб'яднання Германіі, ягоныя жыхары рыхтуюцца да знікнення сталічнага статусу свайго горада, але зусім не ўяўляюць яго правінцыйным, і таму робяць усё, каб Бон застаўся буйным адміністрацыйным, міжнародным, прамысловым, культурным і навуковым цэнтрам на захадзе Германіі.**

Калі перанос сталіцы Казахстана з Алма-Аты ў Астану, што адбываўся на нашых вачах, прайшоў надзвычай імкліва, то немцы да вяртання сталічнага статусу Берліну падышлі вельмі разважліва і без паспешлівасці. Прычым не толькі ў справе рэстаўрацыі рэйхстага і пабудовы новых адміністрацыйных будынкаў у Берліне, але і ў падыходах да далейшага лёсу былой сваёй сталіцы — Бона.

Колькі будзе каштаваць перанос сталіцы Германіі з Бона ў Берлін, у мэрыі Бона пэўна адказаць не змаглі. Дакладнай лічбы няма, ёсць толькі прагнозная: не менш чым 200 мільярдаў марак, але канчатковая лічба будзе вызначана толькі пасля таго, як гэты доўгатэрміновы працэс завершыцца.

Горад Бон, які роўна паўстагоддзя (з 1949 па 1999 гады) быў сталіцай Заходняй Германіі і пакуль што яшчэ выконвае функцыі адміністрацыйнага цэнтра аб'яднанай ФРГ, чакае вялікага перасялення. Цэнтральныя апараты ўрада, міністэрстваў і ведамстваў, парламента, прэзідэнта павінны пераехаць у новуюстарую сталіцу адзінай Германіі — Берлін. Першыя «перасяленцы» пачалі з'язджаць у Берлін ужо сёлета, але асноўны бум чакаецца летам наступнага года.

Адміністрацыйныя пасады ва ўрадавых арганізацыях Германіі вельмі прэстыжныя і высокааплатныя, таму большасць іх супрацоўнікаў, нягледзячы на матэрыяльныя і арганізацыйныя складанасці, гатовы пакінуць свае бонскія асабнякі і пераехаць у берлінскія кватэры. Нават тыя, каму засталося некалькі гадоў да пенсіі. Урад гатовы прафінансаваць перавоз маёмасці і білеты на самалёт. Пра астатняе чыноўнікі вымушаны будуць паклапаціцца самі.

Як паведаміў супрацоўнік бонскай мэрыі Штэфан Заўерборн на сустрэчы з беларускімі журналістамі, якая была арганізавана клубам «Мінск—Бон», усяго з Бона ў Берлін павінны выехаць 15 тысяч чыноўнікаў. Разам з сем'ямі гэта складзе больш за 30 тысяч чалавек — амаль 10 працэнтаў насельніцтва горада Бона, у якім цяпер жыве 310 тысяч чалавек.

—Утворыцца сапраўдны сацыяльны кратэр, — зазначае Ш. Заўерборн, — З іншага боку, страцяць працу шматлікія работнікі абслугоўвання ўрадавых арганізацый і пасольстваў.

Усяго будучыя страты для горада ацэнены ў 22.500 рабочых месцаў. Такім чынам, Бон сутыкнецца з вялікімі цяжкасцямі. Але ён ужо гатовы да іх.

— Калі 20 чэрвеня 1991 года бундэстаг прыняў рашэнне вярнуць сталічны статус Берліну і пакінуць Бон, горад і яго жыхары былі ў шоку, — расказвае Штэфан Заўерборн. — Што рабіць са створанай інфраструктурай, як выкарыстоўваць апусцелыя адміністрацыйныя будынкі? Потым шок змяніўся разлікамі і было прынята рашэнне будаваць будучыню нашага горада на пяці асобных калонах: адміністрацыйнай, навуковай, інавацыйна-прамысловай, культурнай і турыстычнай... Па гэтых накірунках былі распрацаваны перспектыўныя праграмы.

26 красавіка 1994 года бундэстагам быў прыняты спецыяльны «Закон Бон—Берлін», які надаваў Бону статус федэральнага горада і прадугледжваў «доўгатэрміновы і сумленны падзел працы паміж сталічным горадам Берлінам і федэральным горадам Бонам». А 29 чэрвеня 1994 года было падпісана Пагадненне аб кампенсацыі, якое прадугледжвала выдзяленне Бону і рэгіёну на працягу 10 гадоў 2,81 мільярда нямецкіх марак на вырашэнне ўзнікшых сацыльна-эканамічных праблем.

Згодна з «Законам Бон—Берлін», Бон застаецца важным адміністрацыйным цэнтрам, тут будуць функцыянаваць цэнтральныя апараты васьмі міністэрстваў, у тым ліку такіх важных, як міністэртсвы пошты і камунікацый, статыстыкі, сельскай гаспадаркі і харчавання. Згодна з законам, іншыя міністэрствы, бундэсрат (верхняя палата парламента) і федэральны прэзідэнт будуць мець свае другія офісы ў Боне. У якасці кампенсацыі з іншых гарадоў Германіі у Бон прыбудуць іншыя федэральныя інстытуты: аудытарскі суд, федэральны страхавы офіс, федэральны офіс па радыяцыйнай бяспецы і інш. Яны дадуць гораду 7500 дадатковых працоўных месцаў. Разам з тым мяркуецца ператварыць Бон у буйны міжнародны цэнтр, тут ужо прадстаўлены альбо неўзабаве размесцяцца многія міжнародныя арганізацыі. З 1996 года блакітны сцяг ААН ужо развяваецца над Бонам, тут размясціліся офісы некалькіх ААНаўскіх арганізацый. У хуткім часе ў Боне размесціцца і Міжнародны параалімпійскі камітэт, іншыя еўрапейскія і сусветныя структуры.

Акрамя таго, федэральным урадам Германіі прадэкларавана мэта сканцэнтраваць у Боне нацыянальныя інстытуты, арыентаваныя на супрацоўніцтва з краінамі, якія развіваюцца. Яны будуць арганізоўваць культурны, навуковы і эканамічны абмен ФРГ з гэтымі дзяржавамі, у тым ліку і Беларуссю. Такім чынам, эканамічныя і культурныя сувязі Бона і Мінска, якія надзвычай умацаваліся за апошнія гады, захаваюцца. У прыватнасці, паміж мэрыямі Бона і нашай сталіцы падпісаны пагадненні аб супрацоўніцтве, гандлёва-прамысловая палата зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія ўтрымлівае ў Мінску сваё прадстаўніцтва, і, нягледзячы на эканамічныя цяжкасці ў Беларусі, наладжвае кантакты бізнесменаў дзвюх краін. З часам з'явяцца і новыя магчымасці.

Цяпер Бон мае адносна невысокі ўзровень беспрацоўя. Па словах бургамістра горада Бона Бербель Райндл, беспрацоўных у горадзе толькі 7 працэнтаў ад працаздольнага насельніцтва, пры тым што ў цэлым па Германіі іх 10,2, а ў зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія — нават 11,2 працэнта. Каб пазбегнуць імклівага росту беспрацоўя пасля пераезду ўрадавых арганізацый у Берлін, бонская гарадская адміністрацыя ўзяла курс на развіццё прадпрымальніцтва ў сферы так званай «белай прамысловасці». У першую чаргу тут канцэнтруюцца прадпрыемствы тэлекамунікацыйнай галіны. Толькі філіял «Дойчэ Тэлеком» даў нядаўна Бону 2000 новых рабочых месцаў. Імкнуцца сюды і многія камп'ютэрныя фірмы, ствараюцца прадпрыемствы сферы паслуг. Па словах Штэфана Заўерборна, які ў мэрыі Бона адказвае за падтрымку прадпрымальніцтва, з 1991 года ў Боне створана 21 тысяча новых фірмаў, большасць якіх заснавалі маладыя людзі, і мэрыя цяпер дапамагае ім стаць на ногі. За імі будучыня федэральнага горада.

Увогуле тут пасля пераносу сталіцы чакаецца сапраўдны прамысловы бум, бо горад размешчаны ў вельмі выгадным месцы ў самым цэнтры Заходняй Еўропы, а створаная раней інфраструктура і інвестыцыйны клімат прыцягальныя для бізнесу. Таму прадстаўнікі фракцыі «зялёных» у гарадскім парламенце Бона нават паклапаціліся раней часу распачаць кампанію за тое, каб захаваць усе незабудаваныя цяпер бонскія тэрыторыі і лясы ў яго ваколіцах, у сувязі з пераездам сталіцы ў Берлін яны правялі спецыяльны экалагічны маніторынг, узялі на ўлік кожнае дрэўца і падрыхтаваліся праводзіць акцыі ў іх абарону, калі такое спатрэбіцца...

Але ці не найбольшую ўвагу бонская мэрыя ўдзяляе далейшаму развіццю навукі і адукацыі. З 2,81 мільярда марак федэральнай кампенсацыі на навуку будзе накіравана 1,665 мільярда марак. За гэтыя грошы мяркуецца заснаваць Еўрапейскі цэнтр развіцця навукі і даследаванняў, Цэнтр вывучэння еўрапейскай інтэграцыі, некалькі вышэйшых прафесійных школ. Асаблівыя спадзяванні ў мэрыі Бона на культурныя і турыстычныя праекты — у Боне 29 музеяў, Бон — радзіма Бетховена, і тут адбываецца безліч музычных і тэатральных імпрэз. У прыватнасці, у гэтым годзе, падчас так званага «Бонскага лета», якое цягнецца з мая па кастрычнік, калі адбываюцца галоўныя культурныя праекты, у Боне гастралявала сем музычных і тэатральных калектываў з Беларусі. Тут можна наведаць канцэрты зорак з усіх краін свету. Адсюль вынікае і жаданне ўладаў Бона зрабіць свой горад адметным турыстычным цэнтрам. Для гэтага ўжо створана спецыяльная кампанія, якая будзе развіваць турызм на новым узроўні.

Разам з урадавымі арганізацыямі перанос сталіцы з Бона ў Берлін закране і больш як 150 замежных пасольстваў. Аднак іх пераезд не будзе такім хуткім, паколькі іх ніхто не можа прымусіць мяняць сваё месцазнаходжанне. Перанесці пасольства — задавальненне зусім не таннае. Таму, як паведамілі ў мэрыі Бона, многія замежныя краіны пакуль што захаваюць свае пасольствы ў Боне, адразу ж пераедуць у Берлін пасольствы толькі найбольш буйных і багатых дзяржаў свету, але і яны пакінуць у Боне свае консульствы.

Такім чынам, невялікі, але прыгожы горад на Рэйне застанецца прыцягальным цэнтрам сучаснага эканамічнага і палітычнага жыцця ў Заходняй Еўропе. Толькі месцы палітыкаў і чыноўнікаў тут зоймуць бізнесмены і менеджэры.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

Бон—Мінск.

**Рэдакцыя газеты «Звязда» выказвае падзяку клубу «Мінск-Бон», які арганізаваў паездку і сустрэчы нашага карэспандэнта ў Германіі.**

*БЕЛАРУСЬ І СВЕТ*

# КАГО НАКРЫЛА ХВАЛЯ РАСІЙСКАГА КРЫЗІСУ?

**Расійскі фінансавы крызіс, нібы гіганцкі вір, паглынуў у сябе і іншыя малыя і маленькія дзяржавы. І чым мацней краіна была звязана з эпіцэнтрам гэтага «бедства» — Расіяй, тым больш магутным быў разбуральны эфект для яе эканомікі.**

Вызначыць меру сувязі асобных дзяржаў з Расіяй, а значыць і моц разбуральных узрушэнняў, дазваляе такі паказчык, як аб'ём тавараабароту. Зразумела, чым большая доля гандлю ў агульным тавараабароце краіны прыпадала на Расію, тым глыбей апусцілася на дно эканоміка гэтай дзяржавы. Такім чынам, адны пацярпелі больш, іншыя менш.

Паводле даных Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, напярэдадні крызісу гандаль з Расіяй займаў 60 працэнтаў ад агульнага тавараабароту нашай дзяржавы. Такім чынам, сярод краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы мы аказаліся ў самым незайздросным становішчы. Раптоўная неплацежаздольнасць расійскіх суб'ектаў гаспадарання ўмомант падкасіла эканамічнае становішча Беларусі. Украіна, якая толькі на 30 працэнтаў залежыць ад Расіі, адчула ўдар ў два разы слабейшы. А краіны Цэнтральнай Еўропы, якія былі за мяжой стратэгічна дапушчальнага памеру экспартна-імпартных адносінаў з Масквой, наогул хіба што крышку спужаліся.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

**Доля Расіі ў тавараабароце некаторых еўрапейскіх краін, у працэнтах**




*Крыніцы: Міністэрства статыстыкі і аналізу РБ, "Business Central Europe".*

# КАНЦЭРТ ІГАРА КРУТОГА САБРАЎ НЕ ТОЛЬКІ ЭСТРАДНЫ, АЛЕ І ПАЛІТЫЧНЫ БАМОНД

**Ніводнага свабоднага месца не было ў нядзелю ў пяцітысячнай зале сталічнага Палаца спорту. Аншлаг сабраў папулярны расійскі кампазітар Ігар Крутой, які правёў у Мінску свой творчы вечар. Сярод гледачоў на канцэрце прысутнічалі прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, прэм'ер-міністр Сяргей Лінг, старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Павел Шыпук, члены ўрада, іншыя афіцыйныя асобы.**

Адкрываючы свой вечар, Ігар Крутой выказаў удзячнасць кіраўніку беларускай дзяржавы за ўвагу да яго творчасці і сказаў, што ён па-добраму зайздросціць таму, як кіраўніцтва нашай краіны ставіцца і да культуры, і да спорту.

Ад імя прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі ўдзельнікам канцэрта была паднесена шыкоўная карзіна кветак. А пасля яго завяршэння кіраўнік дзяржавы наладзіў прыём для артыстаў.

Застаецца дадаць, што арганізаваў гэты цудоўны вечар прадзюсерскі цэнтр «Клас-клуб ДжасКрафт». Дарэчы, яго супрацоўнікі стараюцца парадаваць паклоннікаў самых розных жанраў: на яго рахунку арганізацыя гастроляў у Мінску Патрысіі Каас, Дзмітрыя Хварастоўскага, групы «Скорпіянс». Чарговы сюрпрыз рыхтуецца для аматараў рок-музыкі. Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў «Клас-клубе», у лютым мінчан чакае сустрэча з адной з супергруп сусветнага маштабу.

**Эдуард ПІВАВАР, БЕЛТА.**

# НЯМЕЦКІ ПАСОЛ ВЕРНЕЦЦА Ў МІНСК

Абнародаванне на мінулым тыдні сумеснай заявы міністра замежных спраў Беларусі і Старшынства Еўрапейскага саюза станоўча паўплывала на вырашэнне сітуацыі з рэзідэнцыямі паслоў шэрагу краін Заходняй Еўропы ў Мінску.

Як паведамілі ў пасольстве ФРГ, пасол гэтай краіны вернецца ў беларускую сталіцу. Праўда, канкрэтныя тэрміны яго прыезду пакуль не вырашаны. Наўрад ці адбудзецца гэта да калядных святаў.

Зараз далейшае вырашэнне праблемы «Драздоў» нямецкі бок уважліва вывучае разам з іншымі еўрапейскімі краінамі.

**Леанід ТУГАРЫН.**

